*Да заканчэння падпіскі на “Народную Волю” на першую палову 2020 года застаецца тры тыдні. Не спазніцеся!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 95 (4450)**

3 снежня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ

## Не трэба баек, пан Савіных!

Новаспечаны дэпутат Палаты прадстаўнікоў Андрэй Савіных, што быў некалі спікерам Міністэрства замежных спраў, за словам у кішэнь не лезе. Калі на мінулым тыдні “Народная Воля” задала яму пытанне, ці ўдасца ўладам без дыялогу з апазіцыяй і ўсім грамадствам утрымаць незалежнасць краіны, дык ён (глядзіце нумар “НВ” за 26 лістапада) з ходу парыраваў: “*Чаму вы вырашылі, што ўлада не вядзе дыялог з грамадствам? З майго пункту гледжання, вядзе і вельмі актыўна, абапіраючыся на масавыя грамадскія рухі*”.

Чуў, кум, сонца, бачыў гром? Калі ўлада вядзе дыялог з грамадствам, то чаму ж тады беларусы да сённяшняга дня нічога не ведаюць, скажам, пра змест перамоў аб “паглыбленай інтэграцыі”? Больш за тое, нават на запыты дэпутатак шостага склікання Алены Анісім і Ганны Канапацкай высокія чыны адказалі адпіскамі. Мо гэтыя дэпутаткі таму і не трапілі ў новы склад парламента, што з гледзішча кіроўных вярхоў занадта церабілі іх нязручнымі пытаннямі?

А пра якія масавыя грамадскія рухі ідзе гаворка? Мо пан парламентарый мае на ўвазе праўладныя структуры кшталту “Белай Русі”, БРСМ, ФПБ? Дык, па-першае, іх масавасць збольшага фармальная. Па-другое, яны заточаны не пад дыялог, а пад тое, каб ухваляць ды прасоўваць у масы маналогі найвышэйшага кіраўніцтва.

А вось са зваротнай сувяззю нешта не надта. Каб нейкая з падобных арганізацый паспрабавала рэтрансляваць наверх хоць дзясятую частку таго, што гавораць пра ўладу на кухнях, у курылках, дык, мяркую, яе кіраўнік адразу вылецеў бы са свайго крэсла са свістам. Нешта не згадваю, каб тыя арганізацыі заступіліся за прыціснутых дзяржавай людзей падчас “дармаедскіх” пратэстаў ці выказаліся супраць непапулярнага “закона аб адтэрміноўках”.

Так што не трэба расказваць байкі, спадар Савіных. У тым і праблема, што масавых грамадскіх рухаў у нас няма, бо ўлада як агню баіцца некантраляванай актыўнасці. А тыя арганізацыі трэцяга сектара, што не хочуць скакаць пад дудку вертыкалі (возьмем, напрыклад, праваабаронцаў), зведваюць шалёны ціск, дыскрымінацыю.

Шмат гадоў жорны сістэмы пераціралі і палітычную апазіцыю, пра якую сп. Савіных выказаўся зняважліва: “*Каго вы лічыце апазіцыяй? Калі асобныя малыя групы, створаныя для лабіравання інтарэсаў розных знешніх гульцоў, то весці з імі дыялог аб незалежнасці краіны не мае сэнсу. У іх іншыя задачы, часта прама супрацьлеглыя*”. Карацей, знаёмая байка пра “пятую калону”.

Стоп, а ці памятае пан Савіных, калі апошні раз у Беларусі рэгістравалі палітычную партыю? Нагадаю: у 2000 годзе, гэта значыць у мінулым тысячагоддзі. Пазней жа – нуль па фазе. Колькі, напрыклад, ні біліся як рыба аб лёд хрысціянскія дэмакраты, каб атрымаць рэгістрацыю, іх раз за разам адфутбольвалі, высмоктваючы з пальца дробязныя прэтэнзіі да пададзеных папер.

Пад рэпрэсіі ж раз-пораз трaплялі ўсе – і зарэгістраваныя, і незарэгістраваныя. А ведаеце, якія шалёныя рахункі на аплату паслуг міліцыі выстаўляюцца апазіцыянерам за вулічныя мерапрыемствы? А вось каб такі рахунак выкацілі нейкай праўладнай структуры, я не чуў.

Дык мо сп.Савіных як дэпутат паспрыяе, каб апазіцыйныя партыі ў нас нарэшце перасталі дыскрымінавацца, атрымалі абсяг для развіцця і з “асобных малых груп” ператварыліся ва ўплывовыя структуры, як у дэмакратычных краінах?

Зрэшты, што мы толькі пра партыі? Калі круцішся сярод простага люду, то ведаеш: ён нярэдка так чыхвосціць уладу, што прамоўцы з апазіцыйных партый адпачываюць. Толькі ці чуюць гэтыя непрычасаныя меркаванні тыя дзеячы наверсе, што, паводле версіі сп.Савіных, вядуць з народам актыўны дыялог? Ці яны ведаюць толькі тую Беларусь, што паказвае БТ?

Праўда, пра колькасць звычайных людзей, незадаволеных станам спраў у “дзяржаве для народа”, мы можам меркаваць хіба што эмпірычна. Незалежная сацыялогія фактычна знішчана. Можа, пан Савіных, карыстаючыся дэпутацкімі паўнамоцтвамі, даможацца, каб у краіне распачаліся рэгулярныя апытанні на грамадска-палітычныя тэмы, якія праводзілі б незаангажаваныя спецыялісты, каб мы даведаліся пра ступень рэальнага даверу грамадства да розных галін улады і нават – страшна сказаць – пра электаральны рэйтынг прэзідэнта? Толькі падазраю, што лічбы не абрадуюць высокае начальства. Бо можа аказацца, што дэ-факта ў маўклівай (пакуль што маўклівай) апазіцыі – большасць беларусаў.

Што ж да закіду, нібыта задачы апазіцыі супрацьлеглыя абароне незалежнасці, то хачу нагадаць, што менавіта палітычныя апаненты рэжыму ладзілі масавыя акцыі пратэсту яшчэ тады, калі беларускае кіраўніцтва толькі распачынала небяспечныя гульні ў “братнюю інтэграцыю”. Калі б не тая хваля абурэння, мо сёння замест Беларусі тут ужо была б Паўночна-Заходняя акруга РФ.

І цяпер, дарэчы, афіцыйнаму Мінску (на жаль, і ўсёй краіне) вылазіць бокам тое, пра што папярэджвала апазіцыя: нельга гуляць у нібыта раўнапраўную інтэграцыю з імперыяй, бо яе інстынкты нікуды не падзеліся.

Сёння мы бачым, што Крэмль узяў за гарляк “паглыбленай інтэграцыяй”. Узяў і даціскае, апелююючы да той самай саюзнай дамовы 1999 года, супраць якой выступала апазіцыя, нацыянальна свядомая частка грамадства – і якую, нядоўга думаючы, падмахнула беларускае кіраўніцтва. Дык хто глядзеў далей і хто болей пераймаўся за незалежнасць?

Зрэшты, не час цяпер мерацца свядомасцю. Час сапраўды знаходзіць агульную мову дзеля абароны суверэнітэту. Без пыхі і прыніжэння тых, у каго іншыя палітычныя погляды.

ВІЗІТ

## Аляксандр Лукашэнка – у Сербіі

Запланаваны перагаворы з прэзідэнтам Сербіі **Аляксандрам Вучычам**, а таксама прадугледжана сустрэча А.Лукашэнкі са старшынёй Народнай скупшчыны Сербіі **Маяй Гойкавіч** і дэпутатамі вышэйшага заканадаўчага і канстытуцыйнага органа краіны.

ДАРЭЧЫ

### Чакаюцца вялікія кантракты…

У гэтыя ж дні ў Бялградзе пройдзе беларуска-сербскі бізнес-форум, на якім чакаецца падпісанне камерцыйных кантрактаў і пагадненняў.

Сума камерцыйных праектаў, якія плануецца заключыць у ходзе форуму, можа перавысіць 100 мільёнаў долараў, казаў напярэдадні візіту пасол Беларусі ў Сербіі **Валерый Брылёў**. Ён удакладніў, што вялікія кантракты чакаюць МТЗ, “Белшыну”, “Магілёўхімвалакно”, БелАЗ, БМЗ і іншыя структуры.

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

## Аргентинец Рафаэль Гросси – новый глава МАГАТЭ

*За всю историю Международного агентства по атомной энергии его впервые возглавит латиноамериканец.*




Гросси – шестой глава МАГАТЭ, которое было основано в 1957 году. Он приступит к выполнению своих обязанностей сегодня, 3 декабря. Планируется, что первый визит Гросси совершит в Иран.

Предшественником Гросси был Юкио Амано, который скончался на 73-м году жизни в июле нынешнего года. После его смерти исполняющим обязанности главы был назначен экс-постпред Румынии Корнел Феруцэ, который и был главным соперником Гросси на этот пост.

Главу агентства МАГАТЭ назначают на четыре года.

ЖАХ!

## Бар’ерная агароджа прабіла машыну наскрозь

*Жудаснае ДТЗ адбылося ўчора днём на 32-м кіламетры аўтадарогі М14 (МКАД-2).*

49-гадовы кіроўца Renault Megane Scenic урэзаўся ў бар’ерную агароджу. Металічная канструкцыя ўвайшла ў салон аўтамабіля і выйшла праз багажнік, мужчына атрымаў моцныя цялесныя пашкоджанні. Ратавальнікі дэблакіравалі кіроўцу, але ён памёр на месцы ДТЗ, не прыходзячы ў прытомнасць.

Зараз высвятляюцца прычыны аварыі.



БЛІЦ

## Ці патрэбны Беларусі адзіныя з Расіяй урад і парламент?

*Пасол Беларусі ў Расіі Уладзімір Сямашка на мінулым тыдні ў адным з інтэрв’ю зрабіў гучную заяву наконт таго, што кіраўнікі Беларусі і Расіі дамовіліся перайсці на ўніфікаванае падатковае заканадаўства, стварэнне адзіных рынкаў нафты, газу і электраэнергіі, а таксама вырашылі “стварыць адзіныя парламент і ўрад з пэўнымі паўнамоцтвамі”.*

*Што, мала нам урада на чале з Сяргеем Румасам? А навошта, скажыце, нядаўна выбіралі новы склад Палаты прадстаўнікоў?*

*Калі будзе створаны адзіны парламент, калі з’явіцца адзіны ўрад, няхай сабе толькі з пэўнымі паўнамоцтвамі, то ці не прывядзе гэта Беларусь да аўтаматычнай страты незалежнасці?*

*Вось меркаванні на гэты конт вядомых асоб.*

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, былы кіраўнік Нацбанка Беларусі, доктар эканамічных навук:**

– Думаю, гэтыя словы былі вырваны з кантэксту выступлення Уладзіміра Сямашкі. Бо спасылка ідзе на дамову пра Саюзную дзяржаву, падпісаную ў снежні 1999 года. Там некалі было сказана, што мэтай з’яўляецца адзіны парламент, мытня, урад, прэзідэнт. Гэта тое, што падпісаў Аляксандр Лукашэнка 25 гадоў таму. Але, відаць, пра гэта не вельмі было інфармавана наша грамадства.

Безумоўна, гэта пагроза для незалежнасці і суверэнітэту Беларусі. І гэтаму трэба супрацьстаяць. Я асабіста падтрымліваю тыя сілы, якія выступаюць за дэзавуіраванне гэтай дамовы пра Саюзную дзяжаву альбо змену рэдакцыі і ўнясенне сур’ёзных карэктыў у гэтую дамову.

**Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца:**

– А што тут каментаваць – ніякай жа інфармацыі няма, не вядома, чым усё скончыцца. Дваццаць гадоў гэтыя дакуметы пыліліся ў шуфлядцы, і трэба было іх зараз дастаць і ўзбудзіць трывогі ў грамадстве наконт незалежнасці.

Можа, увогуле трэба гэты саюз пацiху неяк скасаваць, улічваючы абсалютную непрадказальнасць нашага палітычнага суседа. Калі ўзгадаць гісторыю, то не адзін раз Расія ўцягвала беларусаў у геапалітычныя катастрофы, войны і гэтак далей. Нам гэта трэба?

Засмучае, што сёння ўсё робіцца патаемна, што ніякім чынам грамадства не можа паўплываць на механізм і змест гэтых перамоў. Таму нічога дзіўнага, што ў пераважнай большасці існуе трывога пра лёс незалежнасці.

Любыя патаемныя перамовы прыводзяць да чарговага ўзвінчвання грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне. І гэта можа прывесці да вельмі сур’ёзных наступстваў.

**Алег ГАЙДУКЕВІЧ, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі:**

– Ніякай страты незалежнасці не будзе, бо ў Беларусі гэтага ніхто не хоча. 90 працэнтаў беларусаў жадаюць жыць у незалежнай краіне. Пра гэта кажуць і прэзідэнт Беларусі, і любы палітык.

Таму трэба спакойна ставіцца да сітуацыі, у тым ліку і да інтэграцыі. Ніколі беларускі бок не падпіша дакументы на такіх умовах, пры якіх мы гублялі б суверэнітэт.

Але трэба разумець, што любая інтэграцыя – гэта нейкія кампрамісы. Расіі і Беларусі трэба іх дасягаць. Еўрапейскі Саюз – гэта таксама кампраміс і пэўныя кампрамісныя дамоўленасці, якія тычацца кожнай з краін Еўрасаюза.

Калі ж мы кажам пра адзіныя парламент і ўрад, то трэба разумець, што да гэтага неабходна прайсці пэўны шлях. А пакуль не ўзгоднены нават тыя пытанні, якія трэба ўжо сёння ўзгадніць.

Таму зараз у асноўным спрэчкі ідуць на тэму эканомікі. І ніякай страты суверэнітэту не было, няма і не будзе.

**Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

– На мой погляд, на гэтым этапе не будзе стварацца ні агульны парламент, ні ўрад, паколькі і беларускі бок гэта абвяргаў.

Але калі некалі прыйдуць да такіх агульных структур, то гэта будзе азначаць у значнай ступені страту суверэнітэту. Па-іншаму нельга і разумець утварэнне наднацыянальных органаў.

**Апыталі Марына КОКТЫШ і Алесь СІВЫ.**

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

## Ваш высакародны крок адгукнецца шчырай удзячнасцю многіх і многіх людзей!

Шаноўныя сябры!

Многія з Вас ведаюць, чаму мы распачалі дабрачынную акцыю “**Каб у 600 бібліятэках была “Народная Воля”**. Для тых, хто ўпершыню пра гэта чуе, нагадаем, што палягае ў яе аснове.

Не сакрэт: з-за мізэрных пенсій, невысокіх заробкаў многія людзі не маюць магчымасці падпісвацца на перыядычныя выданні. Ужо працяглы час назіраецца такая тэндэнцыя – расце колькасць грамадзян, якія, каб пачытаць газеты, ідуць у публічныя бібліятэкі. Зыходзячы з гэтага, рэдакцыя «Народнай Волі» ў канцы мінулага года разгарнула кампанію па зборы сродкаў для таго, каб **600** бібліятэк нашай краіны змаглі рэгулярна атрымліваць «Народную Волю». Водгукі, якія да нас даходзяць, самыя станоўчыя. Людзі з невысокім дастаткам удзячны нам і ўсім ахвярадаўцам за такі дабрачынны крок, кожны нумар газеты чакаюць з вялікім нецярпеннем.

І вось ужо поўным ходам ідзе падпіска **на першую палову 2020 года,** і нам нельга пакінуць бібліятэкі без «Народнай Волі» **у студзені–чэрвені.** На жаль, з уласнымі фінансамі ў рэдакцыі вялікі дэфіцыт (ад дзяржавы не маем ніякіх прэферэнцый). Таму мы аб’яўляем чарговую дабрачынную акцыю па зборы фінансавых сродкаў, з тым каб і ў наступным годзе **600** публічных бібліятэк атрымлівалі «Народную Волю». Але на гэты раз ахвяраванні вырашылі збіраць не праз краўдфандынг, а непасрэдна праз разліковы рахунак рэдакцыі.

Дапамажыце, калі ласка, – з такой мальбой звяртаемся да ўсіх, хто мае магчымасць працягнуць руку дзеля гэтай высакароднай справы. Вядома ж, перш-наперш наш зварот да кіраўнікоў бізнес-кампаній, фірм, прадпрымальніцкіх структур. У вырашэнні надзвычай важнай «бібліятэчнай праблемы» можаце ўзяць удзел не толькі вы самі, але і вашы супрацоўнікі. Заўважым: каб аформіць падпіску на «Народную Волю» на першую палову 2020 года для **600** публічных бібліятэк, неабходна сабраць каля **36.000** рублёў. Частка сродкаў ужо паступіла на рэдакцыйны рахунак. І ў далейшым рады будзем ахвяраванням у любым памеры. Рэквізіты для пералічэння грошай (*з адзнакай «Падпіска для бібліятэк»*) ранейшыя:

**Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «Народная Воля»**

**220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**банкаўскія рэквізіты:**
**р/р BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**у «Прыёрбанк» ААТ, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Адначасова хочам адзначыць: выказваючы шчырую ўдзячнасць усім патэнцыйным ахвярадаўцам, рэдакцыя газеты «Народная Воля» заўжды гатова наладзіць з вамі самыя цесныя стасункі. Рады будзем бачыць вас у нашым офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34а. Кантактны тэлефон – 8-017-328-68-71.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

ЛІЧБА ДНЯ

## 6,5 мільярда долараў

*Такая запазычанасць беларусаў па крэдытах перад банкамі на 1 лістапада.*

Як сведчаць звесткі Нацыянальнага банка, у параўнанні з 1 студзеня запазычанасць грамадзян краіны вырасла на 2 млрд рублёў, або на 965,4 млн долараў. У працэнтах рост склаў 14,7%.

АСОБА

# Вольга КАВАЛЬКОВА:
# «Я дасягну сваёй мэты…»

Мая субяседніца вучылася на юрыдычным факультэце Акадэміі ўнутраных спраў. Тройчы была прэтэндэнткай на месца дэпутата Палаты прадстаўнікоў – у 2012, 2016 і 2019 гадах. Разлічвала на перамогу падчас мясцовых выбараў у 2014 годзе. Не пашанцавала. Але яна лічыць, што ўсё наперадзе…

У палітыку Вольга Кавалькова прыйшла, можна сказаць, выпадкова: праваслаўны святар, да якога хадзіла ў царкву, у 2010 годзе запрасіў на сход прыхільнікаў ідэі хрысціянскай дэмакратыі, і з таго часу яна бярэ актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці краіны.



**– Спадарыня Вольга, некалькі гадоў ваша працоўная біяграфія была звязана з работай у дзяржаўных органах…**

– Так, я займала розныя пасады ў адміністрацыях Партызанскага і Савецкага раёнаў Мінска. Не буду казаць пра нейкія поспехі ці дасягненні, але справу сваю добра ведала – акрамя акадэміі, набывала веды ў Рэспубліканскім інстытуце перакваліфікацыі кадраў, асвоіла бухгалтарскі ўлік, маю шэраг іншых сертыфікатаў. Лічу, што галоўнае для чыноўніка – гэта дапамога людзям.

**– А чаму ўсё ж такі не знайшлі сябе на розных пасадах у дзяржаўных органах?**

– Зразумела, што гэта не маё, не змагу поўнасцю выкарыстаць свой патэнцыял.

**– А ці лёгка быць жанчынай-палітыкам?**

– Нялёгка, але гэта мяне не палохае. Я настойліва іду да сваёй мэты. Не скажу, што з дзяцінства марыла стаць палітыкам, але калі пераязджала ад бацькоў у сваю кватэру, то знайшла адну дзіцячую анкету. У ёй было пытанне "Кім ты хочаш стаць?", і я на яго адказала так: "Хачу быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь". Гэта, пэўна, быў 1996 год – менавіта тады мяне ўразілі падзеі, звязаныя з прэзідэнцкімі выбарамі. Памятаю, дарослыя з мяне смяяліся, але ў маёй юнай душы такая мара пасялілася назаўжды. І я дасягну сваёй мэты…

**– Адным словам, вы, Вольга, летуценнік…**

– У першую чаргу я вольная асоба. Мне ніхто і нішто не перашкаджае ісці да сваёй мэты. Канечне, у маладыя гады кожны хоча верыць у каханне на ўсё жыццё, але я такога чалавека пакуль не сустрэла. І мне хапае часу на ўдзел у грамадска-палітычных мерапрыемствах.

**– Вы – карэнная мінчанка…**

– Так, я, як і мае бацькі, нарадзілася ў сталіцы. Тата – цясляр, а мама працавала закройшчыцай. Мы дваццаць гадоў пражылі ў Шабанах. У школе я вучылася на выдатна.

Бацькі мяне заўсёды падтрымлівалі і падтрымліваюць. Быў такі смешны выпадак. Калі ў 2017 годзе падчас акцыі "дармаедаў" мяне арыштавалі на сем сутак, тата вазіў мне перадачы. Мы ў ізалятары нічога з казённага не елі, чакалі, калі з волі перададуць прадукты. І вось аднойчы прыносяць перадачу, адкрываю, а там замест яды – розныя фарбы, фламастары і белы плюшавы мядзведзік з чырвоным гальштукам…

**– Ваш любімы занятак, акрамя ўдзелу ў грамадска-палітычных акцыях?**

– Я вельмі люблю вадзіць аўтамабіль. З задавальненнем вандрую па Беларусі. Калі мяне пасля арышту на паўгода пазбавілі правоў кіроўцы, то гэта мяне вельмі злавала і выбівала з каляіны.

Яшчэ я люблю фатаграфаваць. У мяне шмат сяброў у сацыяльных сетках, і яны ведаюць пра такое мае захапленне – я часта публікую свае здымкі.

**– Калі, на вашу думку, можа змяніцца сітуацыя ў краіне?**

– Тады, калі апазіцыйныя палітыкі выйдуць на шырокую аўдыторыю. На жаль, у нас няма публічных дыскусій. Нейкія спробы былі зроблены напярэдадні галасавання, але гэта не паўплывала на электарат. Улады заблакіравалі доступ да народных мас, таму людзі не ведаюць, што ёсць асобы, якія маглі б стаць сілай, альтэрнатыўнай існуючаму рэжыму. Як апазіцыйны палітык, я хачу зрабіць сур'ёзны ўнёсак у развіццё Беларусі. Хачу, каб мае бацькі мелі годную пенсію, каб пляменніцы змаглі атрымаць добрую адукацыю і годную працу і не думалі, куды з'ехаць на заробкі.

Я не прывыкла ныць і апускаць рукі. Калі я, як палітык, сабе гэта дазволю, то які прыклад пакажу іншым людзям? Ім трэба на кагосьці арыентавацца, на кагосьці быць падобным…

**– Эпізод, калі члены выбарчай камісіі з дапамогай аж трох міліцыянераў, прымяняючы фізічную сілу, перашкаджалі вам, кандыдату ў дэпутаты, кантраляваць падлік галасоў, выклікаў шквал эмоцый у сацыяльных сетках…**

– Я нездарма заняла прынцыповую пазіцыю. Ці ж можна назваць выбары дэмакратычнымі, калі было столькі парушэнняў заканадаўства? Ці ж можна паверыць у тое, што за гадзіну працы выязной камісіі ў шпіталі кожныя 30 секунд галасаваў новы чалавек?!

**– Чаму, па-вашаму, такая беспрынцыповасць з боку многіх членаў выбарчых камісій – з-за нізкай адукаванасці, несвядомасці, ад страху перад высокім начальствам ці з якіх іншых прычын?**

– З-за ўсяго разам. На выбарчым участку старшыня камісіі паказвае мне інструкцыю, якой ён карыстаецца. Для мяне як юрыста гэта выглядае проста абсурдна, бо ёсць Закон аб выбарах і такая інструкцыя – здзек з праў. Чаму было многа парушэнняў заканадаўства? Таму, што за 25 гадоў ніводны сябра выбарчых камісій не быў за гэта пакараны, нягледзячы на тысячы скаргаў кандыдатаў у дэпутаты і назіральнікаў.

**– Казалі, што пасля падліку галасоў вы нават трапілі ў шпіталь…**

– Не, у шпіталь трапіла не я, а мой тата, які быў на ўчастку разам са мной як даверaная асоба. У яго рэзка падскочыў ціск, і яму спатрэбілася медыцынская дапамога. Праўда, калі я паехала адведаць яго, то і самой стала кепска.

**– Вольга, я чула, што на наступных прэзідэнцкіх выбарах вы збіраецеся вылучыць сваю кандыдатуру…**

– Не выключаю. Рана ці позна я дасягну сваёй мэты.

**Галіна АБАКУНЧЫК.**

РЭГІЁН

## Палова сем'яў у Гродзенскай вобласці жывуць на 500 і менш рублёў

Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Гродзенскай вобласці канстатуе, што ў трэцім квартале 2019 года 50,5% сямей жывуць у месяц на суму, якая не перавышае 500 рублёў.

Паводле інфармацыі той жа крыніцы, даход ад 500 да 600 рублёў мелі 16,6% сем'яў Гродзеншчыны, а на 600–700 рублёў жылі 10,4% хатніх гаспадарак. Звыш 800 рублёў даходу ў месяц, паводле статыстыкі, мелі 13,6% жыхароў вобласці.

Статыстыка сцвярджае, што ў вобласці зніжаецца колькасць тых, хто жыве за рысай беднасці (пражытачны мінімум зараз складае 232 рублі). Калі год таму такіх сем'яў, паводле статыстыкі, налічвалася 4,6%, то ў трэцім квартале сёлета – нібыта 0,6%.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

СТАЛА ВЯДОМА

## Мінус год…

*Фігуранты «справы прафсаюзаў» **Генадзь Фядынiч** і **Ігар Комлік** патрапілі пад амністыю.*

Нагадаем, што 24 жніўня 2018 года суд Савецкага раёна Мінска прызнаў экс-старшыню незалежнага прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** і былога галоўнага бухгалтара арганізацыі **Ігара Комліка** вінаватымі ва "ўхіленні ад выплаты падаткаў". Прысуд – абмежаванне волі тэрмінам на 4 гады без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу, без канфіскацыі маёмасці і з забаронай займаць кіруючыя пасады на 5 гадоў.

*"Стала вядома, што мы патрапілі пад дзеянне закона аб амністыі, прынятага да 79-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў,* – кажа **Генадзь Фядыніч**. – *Пра гэта мне і Ігару Комліку паведамілі з пракуратуры. У выніку нам скарачаецца тэрмін адбыцця пакарання на "дамашняй хіміі" на адзін год".*

*Тым не менш, паводле слоў Фядыніча, яны наогул не лічаць сябе вінаватымі і ў бліжэйшы час збіраюцца падаваць скаргу ў Вярхоўны суд на рашэнні ніжэйшых інстанцый.*

*"У выпадку, калі і Вярхоўны суд не адменіць папярэднія рашэнні, будзем звяртацца ў Камітэт па правах чалавека ААН",* – дадае прафсаюзны лідар.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НУ І НУ!

## Назіральнікі з'ехалі…

*І пачаліся суды над удзельнікамі акцый, якія адбываліся падчас выбарчай кампаніі.*

Учора ў судзе Першамайскага раёна Мінска разглядаліся справы чатырох актывістаў, у дачыненні да якіх былі складзены пратаколы па артыкуле за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, – **Дзяніса Красачкі, Ніны Багінскай, Леаніда Кулакова** і **Вольгі Нікалайчык.**

Як паведамляюць праваабаронцы, Дзяніс Красачка аштрафаваны на 25 базавых велічыняў (637,5 рубля), усе астатнія – на 50 базавых велічынь (1275 рублёў) кожны.

**Віктар ШПАК.**

ФІНАНСЫ

## Ці працягне абвальвацца беларускі рубель?

*За мінулы тыдзень долар і еўра добра ўмацаваліся.*

У апошнія дні восені курс беларускага рубля ў адносінах да долара, еўра і расійскага рубля абваліўся на 2,9, 2,3 і 2,1 працэнта адпаведна. Што адбылося?

*"Падзенне беларускага рубля – гэта, хутчэй за ўсё, часовыя ваганні валютнага курса,* – лічыць старшы аналітык кампаніі "Альпары" **Вадзім Іосуб**. – *Ніякіх макраэканамічных нагод для таго, каб заменяных валюты сталі актыўна даражэць, не было".*

На думку эксперта, абвал рубля мог быць звязаны з тым, што ў нейкага буйнога беларускага прадпрыемства з'явілася неабходнасць у валюце для аплаты замежнага кантракта альбо вяртання замежнага крэдыту.

*"У сілу таго, што беларускі валютны рынак дастаткова маленькі, калі ў некага ўзнікае неабходнасць у купілі некалькіх дзясяткаў мільёнаў долараў, калі кампанія ў кароткі тэрмін вырашыла канвертаваць рублі ў валюту, гэта прыводзіць да даволі моцных ваганняў на валютным рынку",* – адзначае Вадзім Іосуб.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

## Разрабатываются страховки от невыплаты зарплаты…

*Министерство экономики при участии Федерации профсоюзов и других заинтересованных ведомств разработало концепцию обязательного страхования работников от невыплаты зарплаты при банкротстве организаций.*

Что это даст?

Согласно концепции, сообщили в ФПБ, все предприятия и организации, которые теоретически могут попасть под процедуру банкротства, будут отчислять в специальный фонд небольшой взнос – четыре сотые процента от фонда оплаты труда. И в дальнейшем из этого фонда работникам предприятий-банкротов будут выплачивать заработную плату и производить отчисления в фонд социальной защиты.

*– Мы настаиваем на том, что этот вопрос требует скорейшего решения. Ведь количество проблемных в этом плане организаций постепенно увеличивается. Например, если в 2016 году их было 319, то в прошлом – уже 821,* – сказал Михаил Орда.

К слову, еще раньше в профсоюзе подчеркивали, что в прошлом году в Беларуси было ликвидировано 480 предприятий-банкротов. Выяснилось, что за 4901 работника не выплачивались страховые взносы. Т.е. люди потеряли не только в доходах, все это время неуплаты взносов в ФСЗН не будет им засчитано в страховой стаж.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Изъято более 1 миллиона 650 тысяч долларов (в том числе в облигациях), 62 тысячи евро, более 1 килограмма золота…

*Следственное управление КГБ завершило предварительное расследование уголовного дела по многочисленным фактам получения и дачи взяток в ходе поставок в Беларусь телекоммуникационного оборудования, компьютерной техники и программного обеспечения. Обвиняемыми по этому делу проходят 16 человек, в том числе и бывший заместитель государственного секретаря Совета безопасности, начальник службы безопасности президента в 2007–2014 гг. Андрей Втюрин и экс-генеральный директор РУП «Белтелеком» **Сергей Сиводедов.***

**Как сообщает пресс-служба КГБ**, должностными лицами принимались взятки за заключение договоров, предусматривающих в том числе модернизацию телекоммуникационного аппаратно-программного комплекса и поставку абонентских приставок со встроенным модулем Wi-Fi; закупку лицензий для телекоммуникационного оборудования, программного обеспечения и защиты информации; закупку оборудования маршрутизации для центральных узлов передачи данных областных филиалов РУП «Белтелеком»; приобретение оборудования беспроводной передачи данных на основе технологии Wi-Fi, расширения головной станции IPTV; поставку, монтаж, ввод в эксплуатацию программно-технических средств (далее – ПТС) и обучение персонала Покупателя; поставку ПТС для покупателя, работы по монтажу и вводу в эксплуатацию ПТС автоматизированной банковской системы «Учетно-операционные работы» и обучение сотрудников; предоставление сублицензиату неисключительного права использования обновлений программного обеспечения, технической поддержки.

Предъявлены обвинения восьми должностным лицам государственных органов и банковских учреждений, восьми представителям коммерческих структур за совершение преступлений, предусмотренных статьями 430 и 431 Уголовного кодекса Республики Беларусь – получение и дача взятки.

Фигурантами уголовного дела являются:

1. **Касперович Феликс Эдуардович**, председатель Правления ОАО «Белорусский межбанковский расчетный центр», обвиняется в получении совместно с Подгорным А.А. взяток в общей сумме не менее 868.750 долларов США.

2. **Подгорный Андрей Александрович**, заместитель начальника Главного управления информационных технологий Национального банка Республики Беларусь, обвиняется в получении совместно с Касперовичем Ф.Э. взяток в общей сумме не менее 868.750 долларов США.

3. **Кудасов Игорь Дмитриевич**, начальник Главного управления платежной системы и цифровых технологий Национального банка Республики Беларусь, обвиняется в получении взяток в общей сумме не менее 30.000 долларов США.

4. **Зданевич Юрий Николаевич**, директор РУП «Информационно-вычислительный центр Министерства финансов Республики Беларусь», обвиняется в получении взяток в общей сумме 82.500 долларов США.

5. **Милованов Алексей Владимирович**, начальник управления информационной безопасности Департамента безопасности ОАО «АСБ «Беларусбанк», обвиняется в получении взятки в сумме 27.000 долларов США.

6. **Втюрин Андрей Александрович**, заместитель государственного секретаря Совета безопасности Республики Беларусь, обвиняется в получении взяток в сумме не менее 190.000 долларов США и подстрекательстве к даче взятки.



Больше взлетов у Андрея Втюрина, скорее всего, не будет.

7. **Сиводедов Сергей Иванович**, генеральный директор РУП «Белтелеком», обвиняется в получении взяток в сумме не менее 470.000 долларов США и 15.000 евро.

8. **Пономарев Юрий Леонидович**, исполнительный директор ОАО «Банк БелВЭБ», обвиняется в получении взяток в общей сумме 13.000 долларов США, а также выгоды имущественного характера на сумму 1000 фунтов стерлингов.

9. **Жилин Владимир Вячеславович**, фактический руководитель ООО «Мобильный сервис» (г.Минск), обвиняется в даче взяток в общей сумме не менее 900.250 долларов США.

10. **Покрышко Сергей Валерьевич**, совладелец и один из фактических руководителей ООО «Солидекс ПИ» и ООО «Солидекс» (г.Минск), обвиняется в даче взяток в общей сумме не менее 195.000 долларов США.

11. **Пригара Михаил Валерьевич**, представитель ИИУП «АМТ-Груп Интернешнл» (г.Минск), обвиняется в даче взяток в общей сумме 285.000 долларов США.

12. **Шарков Сергей Анатольевич**, гражданин Латвийской Республики, совладелец СООО «ДПА» (г.Минск), обвиняется в даче взяток в общей сумме не менее 53.000 долларов США.

13. **Бровка Александр Михайлович**, представитель ООО «Мобильный сервис» (г.Минск), обвиняется в даче взяток в общей сумме 13.000 долларов США, а также предоставлении выгоды имущественного характера на сумму 1000 фунтов стерлингов.

14. **Горбачев Виталий Анатольевич**, представитель компаний «Смартлабс» и «УГМК-Телеком», гражданин Российской Федерации, обвиняется в даче взятки в сумме не менее 190.000 долларов США.

15. **Казанцев Владимир Александрович**, представитель компаний «Смартлабс» и «УГМК-Телеком», гражданин Российской Федерации, обвиняется в даче взятки в сумме не менее 190.000 долларов США.

16. **Томченко Владимир Петрович**, директор ООО «ТТ-Связьком» (г.Минск), обвиняется в даче взятки в сумме не менее 9000 долларов США.

Всего по уголовному делу только у взяткополучателей изъято более 1.650.000 долларов США (в том числе в облигациях), 62.000 евро, более 1 килограмма золота.

Сейчас обвиняемые ознакамливаются с материалами уголовного дела, которое затем будет передано в Генеральную прокуратуру Республики Беларусь для направления в суд.

К слову, сейчас в Минском городском суде подходит к концу рассмотрение подобного уголовного дела из сферы медицины, когда на скамье подсудимых одновременно находятся и взяткодатели (представители фармацевтического бизнеса), и те, кто эти взятки получал (чиновники «Белфармации» и Центра экспертиз и испытаний в медицине).

**Иван ШИРОКИЙ.**

К СЛОВУ

## Вину признали в полном объеме

Как известно, Андрей Втюрин был задержан в конце апреля. *«Он был задержан с поличным при получении 148.600 долларов США от представителя российской коммерческой структуры «Г» за содействие в продвижении ее интересов в Республике Беларусь. Последнему предъявлено обвинение в даче взятки»,* – сообщила тогда пресс-служба КГБ.

Тогда же был задержан и бывший генеральный директор «Белтелекома» Сергей Сиводедов, возглавлявший предприятие с 2014 года.

Сообщалось, что обвиняемые признали вину в полном объеме. К ним была применена мера пресечения в виде заключения под стражу.

ЗАКУЛИСЬЕ

# С поста директора – в мануальные терапевты

*Весной этого года неожиданно с поста директора унитарного предприятия "Центркурорт" Управделами президента ушел, можно сказать, его бессменный руководитель Олег Михайлов – в системе Управления делами он проработал 23 года. Все гадали, каким будет следующее место его работы.*

*Сегодня Михайлов работает мануальным терапевтом в так называемой лечкомиссии.*



Отставка Олега Михайлова для турбизнеса страны стала новостью, которую долго обсуждали. Михайлова называли успешным менеджером. Врач по образованию, он сумел организовать эффективное дело в сфере белорусского туризма. Возглавляемая им государственная структура "Центркурорт" стала одним из активных игроков в туристической отрасли страны. Предприятие активно занималось продажей не только путевок в санатории и дома отдыха, принадлежащие Управделами президента, но и пропагандировало въездной туризм.

Олег Михайлов ушел с директорской должности накануне проведения в Минске Европейских игр, а «Центркурорт» являлся официальным туристическим оператором спортивного мероприятия. Также вместе с Михайловым свои должности тогда покинули его заместитель **Лидия Ефимова** и руководитель одного из подразделений «Центркурорта» – «ЛекоЦентра» **Людмила Большакова**.

В околотуристических кругах говорили, что не стоит искать каких-то подводных камней в отставке Михайлова, он элементарно устал. От руководства «Центркурорта» постоянно требовали работы на результат, выполнения планов по экспорту услуг и т.д. К слову, до сих пор должность директора «Центркурорта» вакантна. Обязанности главы президентской структуры исполняет заместитель директора по санаторно-курортной работе **Елена Боровик.**

Что касается Олега Михайлова, то он сегодня работает мануальным терапевтом в лечкомиссии.

*– В моей жизни были две любимые профессии,* – говорит он. *– Более 20 лет я совмещал работу в «Центркурорте» с медицинской практикой, подрабатывал мануальным терапевтом в Республиканском клиническом медицинском центре Управления делами президента. В определенный момент сделал выбор в сторону медицины, с удовольствием работаю мануальным терапевтом.*

***– В туристическую сферу уже не вернетесь?***

*– Сейчас я полностью погружен в медицину... Что будет спустя какое-то время, не загадываю. В жизни могут быть повороты в разные стороны...*

К слову, Олег Михайлов – из именитой медицинской семьи. Его отец известный академик, заведующий кафедрой лучевой диагностики Белорусской медицинской академии последипломного образования **Анатолий Михайлов**, руководитель диссертационных работ главврача Республиканского клинического медцентра Управления делами президента **Ирины Абельской**.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

*Фото 103.by.*

ДВА ВЗГЛЯДА

# С кем сближаться Беларуси – с Россией или с Западом?

*Этот вопрос волнует не только людей активного возраста, но и пожилых. Что и не удивительно. Ведь то, какое направление выберет наша страна, во многом будет определять ее будущее, а значит, и будущее их детей и внуков.*

*Недавно я пообщалась с двумя пенсионерами. Причем поднимать тему, к кому быть ближе Беларуси, рассуждать о политике не планировала. Друг друга эти два человека не знают, но если бы пришлось им вступать в дискуссию, копья полетели бы.*

## Валерий ВОЛКОВ: «Нужно быть с Россией»

Первым моим собеседником оказался 71-летний Валерий Николаевич Волков. Знакомы мы еще с середины 1990-х. В те уже далекие годы о нем писала местная пресса как о человеке, который помогал организовать оздоровление детишек Солигорска в Адыгее и прилагал руку к налаживанию культурных связей между этой автономией России и Солигорщиной. Получилось у него тогда далеко не все, о чем мечтал. Но запомнился он мне по тем временам как человек деятельный, активный, коммуникабельный, в общем-то демократических взглядов. Потом у него был развод с женой, он уехал в Минск, но прописан остался в Солигорске – в одной квартире с бывшей супругой. В годы, минувшие после его отъезда из Солигорска, наше общение носило эпизодический характер, бывало, что он не появлялся на глаза и не звонил по нескольку лет.

Объявился на сей раз Валерий Николаевич в день основного голосования на недавно прошедших выборах в белорусский парламент. Зашел на чаёк и сообщил, что снимает комнату в Минске, а в Солигорск приехал по вопросу, касающегося его здешнего жилья. Может быть, и отложил бы этот вопрос на потом, но тут выборы...

*– Надо ведь проголосовать было, –* добавил. *– Вот отдал голос и прямо с участка зашел к тебе.*

Я поинтересовалась, какая у него пенсия. И услышала: 322 рубля.

Мой гость сказал, что на пенсию прожить трудно, поездки на маршрутке из Минска в Солигорск и обратно для него недешевы, но проголосовать – это его гражданский долг. Тем более что президент заинтересован, чтобы выборы прошли как надо, а он его поддерживает. Всегда голосовал за Лукашенко.

**– Почему?**

*– У него есть стержень. Вон даже с Медведевым и Путиным пошел на конфликт. Интересы Беларуси твердо отстаивает. Наших солдат уберег от участия в «горячих точках». При нем города чистые, спокойствие, не так, как в России.*

Еще сказал, что если у президента что-то и не получается, то это потому, что обстоятельства такие. Возможно, что и советники его недорабатывают, коррупция в стране. Ему нравится, что Лукашенко возобновил борьбу со взяточниками. Но надо бы сократить чиновничий аппарат, а то, похоже, он слишком раздут.

Я спросила, как, на его взгляд, с демократией в Беларуси.

Валерий Николаевич ответил, что все нормально. И опять вспомнил про спокойствие на улицах. А вот в России, как он слышал от приезжих, с безопасностью для граждан дело обстоит хуже. Там преступность большая. И вообще, обычному человеку у нас лучше.

**– Так ты считаешь, что Беларуси лучше быть ближе к Западу, чем к России?** – предположила я.

*– Да что ты!* – возмутился он. *– Конечно, сближаться надо с Россией!*

Далее я услышала эмоциональную речь о родных братьях, общих корнях, общей истории и кровных узах.

А Запад, по его мнению, нам добра не желает. Мой собеседник вспомнил про НАТО и огласил свои опасения, что Беларусь рассматривается этой организацией как плацдарм, потому что на Западе видят угрозу от России. Вот и учения НАТО вблизи наших границ собирается проводить. Может, неспроста? Также я услышала, что еще Сталин говорил, что Западу нельзя верить.

**– Сталин для тебя большой авторитет?**

Он ответил утвердительно. Сказал, что ему нравится Сталин как личность и политический руководитель. Что обещал, то и делал, а если перегибал, то в интересах всего народа. И что он не верит, что Сталин виновен в репрессиях.

– Моих бабушку и дедушку по матери расстреляли в 1930-х. Мама еще совсем ребенком была, когда сиротой осталась. Но это не Сталин виноват. На него потом просто все репрессии спихнули.

Я не стала с ним спорить, но спросила, посещал ли он сам западные страны. Ответил: нет. А потом вспомнил, что еще при СССР в подростковом возрасте все-таки был однажды в Польше. Занимался спортом, поэтому попал на соревнования.

*– На Западе, конечно, быт хорошо налажен. И уровень жизни выше. Это надо признать. Но нам надо быть с Россией. Многого из того, что нам дорого, на Западе нет.*

**– Например?..**

Через паузу я услышала, что на Западе люди более разобщены, мало душевности в общении между ними, не принято ходить в гости друг к другу.

Я попыталась уточнить, откуда он знает про степень душевности жителей западных стран, если ни в одной из них не был. Сказал, что слышал и читал.

## Нина ЕРМОЛИНСКАЯ: «Нужно повернуться лицом к Западу»

А буквально на следующий день мне позвонила Нина Адамовна Ермолинская. В прошлом она работала воспитателем детского сада. Возраст ее (не все женщины любят упоминание о возрасте) – ну скажем, несколько лет как на пенсии. В Солигорске ее знают как поклонницу белорусского языка, белорусской культуры и истории. А еще она сочиняет стихи и активно болеет за футбольную команду "Шахтер". Некоторое время назад перед матчем на стадионе прочитала в микрофон собственные стихи, посвященные любимой команде. Болельщики наградили ее аплодисментами. А от самой команды она получила в дар шарфик с эмблемой футбольного клуба.

Мне в телефонную трубку Нина Адамовна поведала, что написала шутливые стихи про НАТО, своеобразный ответ тем людям, кто подозревает этот альянс в злонамеренных замыслах в отношении нашей страны. Такие разговоры, охи и ахи она слышала. Нина Адамовна прочла стихотворение, которое она сочинила на тему НАТО и последние строки которого звучат так:

Калі ўжо прыйдзе тое НАТА,  
Запросім мы яго ў хату.  
Нальём гарбаты, пачастуем –  
Гасцям нічога не шкадуем!

На вопрос, правильно ли я поняла, что ей больше импонирует путь сближения Беларуси с Евросоюзом, а не с Россией, собеседница ответила, что я именно так она и считает.

– У странах Еўрасаюза прагрэсіўны накірунак у эканоміцы, найноўшыя тэхналогіі. Як было б добра выкарыстаць іх у айчыннай вытворчасці! Нашы тавары сталі б больш якасныя, больш канкурэнтаздольныя. На мой погляд, цесныя сувязі с Захадам станоўча паўплывалі б на развіццё нашай эканомікі ды і наогул на развіцце нашай краіны. На Захадзе добрыя сацыяльныя гарантыі для людзей, моцная абарона правоў чалавека. Там законы прадуманыя, там шмат што робяць на карысць усяго грамадства і шмат магчымасцяў для маладых.

Еще она думает, что уважение личности человека, уважение человеческого достоинства на Западе значительно большее, чем в России. Да и нам здесь есть чему поучиться. И вообще надо жить в мире со всеми, но сближаться и развивать тесные связи с тем, с кем ожидает более перспективное будущее.

**– Ну а как же кровные узы с Россией, общая история?** – задала я провокационный вопрос.

*– Я лічу што ў нас больш агульная гісторыя з Украінай, Літвою, Польшчай.*

**– А с Россией?**

*– З далёкіх часоў Расія нас душыла. І трэба адмовіцца ад далейшага зблíжэння з ёю. Дастаткова ўзаемавыгадна гандляваць, мець нармальныя дыпламатычныя стасункі, але не ісці на нейкае аб'яднанне.*

На ее взгляд, единое союзное государство с Россией, развитие углубленной интеграции с ней приведет к увеличению экономической и политической зависимости нашей страны от этой страны, несет угрозу суверенитету Беларуси. Независимость Беларуси – это очень большая ценность. И ни в коей мере нельзя ею рисковать. А деньги, которые съедает аппарат союзного государства, лучше бы отдать на здравоохранение и образование.

***

Вот таких два разных мнения неполитиков. Без сомнения, в нашем обществе существует раскол по этому важному вопросу. Похоже, не помешала бы широкая дискуссия по данной тематике, прежде чем наверху будет принято окончательное решение, в каком направлении пойдет Беларусь. Ведь на кону действительно стоит многое.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

*г.Солигорск.*

РЭГІЁН

# У Оршы запрацавала «Цудоўная крама»

Аршанскі актывіст, кіраўнік грамадскага аб'яднання «Звяз» Ігар Казмярчак перакваліфікаваўся ў прадпрымальніка. Днямі ён адкрыў «Цудоўную краму» – першую краму беларускіх дэкаратыўна-ўжытковых тавараў у Оршы.

Футболкі, кубкі, сурвэткі, шапкі і іншыя ўжытковыя дэкаратыўныя вырабы і сувеніры з нацыянальнымі ўзорамі, беларускімі надпісамі і пазнакамі – такі асартымент «Цудоўнай крамы». Частка гэтай прадукцыі – уласныя вырабы, кажа Ігар Казмярчак. «*Трэба «камерцыяналізаваць» нашу нацыянальную культуру, бо гэта магчымасць яе пашырэння праз сувеніры, ужытковыя вырабы, а таксама магчымасць падтрымаць беларускіх творцаў. Да прыкладу, мы супрацоўнічаем з нашымі аршанскімі мастакамі, рамеснікамі, якія пастаўляюць нам эскізы будучых тавараў, гатовыя вырабы*», – кажа прадпрымальнік.



Пры гэтым актывіст не збіраецца пакідаць сваю дзейнасць на чале грамадскай арганізацыі «Звяз»: «*У нашай маладзёжнай арганізацыі шмат юнакоў, якія зараз пайшлі служыць у войска. І таму хочам арганізаваць працу так, каб па вяртанні можна было ўладкоўваць іх на работу*».

Ігар Казмярчак плануе пашырыць гандлёвыя плошчы, сумясціўшы з вытворчасцю, для хуткага выканання замоў наведвальнікаў. А таксама ўжо ў бліжэйшай будучыні распрацаваць турыстычны маршрут па Аршаншчыне.

**Галіна АБАКУНЧЫК.**

СІТУАЦЫЯ

# Дыскрымінацыя?

*Слонімскі раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі адмовіў грамадскаму актывісту Алесю Масюку ў прыёме на працу на пасаду загадчыка аддзела па асноўнай дзейнасці з прычыны нібыта неадпаведнасці яго кваліфікацыі. Масюк падаў скаргу ў суд, а там яму адмовілі ва ўладкаванні на працу ўжо па іншай прычыне. Рашэнне раённага суда Масюк мае намер абскардзіць.*

Алесь Масюк мае амаль 10 гадоў педагагічнага стажу. З 2009-га па 2018 год працаваў педагогам дадатковай адукацыі ў Слонімскім раённым цэнтры дзіцяча-юнацкага турызму, а затым у экалагічным цэнтры дзяцей і моладзі. У Слоніме ён яшчэ вядомы як грамадскі актывіст апазіцыйнага руху, што даволі часта стварае яму перашкоды ў кантактах з дзяржаўнымі чыноўнікамі.

У іскавай заяве ў суд Масюк напісаў, што прыйшоў уладкоўвацца ў Слонімскі раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі па накіраванні ўпраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Слонімскага райвыканкама.

*"Перш чым выдаць мне накіраванне на незанятую пасаду ў цэнтры дадатковай адукацыі, спецыяліст упраўлення тэлефанавала туды і ўдакладняла, ці падыходжу я на гэтае месца,* – згадвае Масюк. – *Праблем не было, бо і стаж працы падыходзіў, і пасады, на якіх я працаваў раней, таксама адпавядалі таму, што патрабавалася, каб заняць гэтае месца".*

Аднак, калі справа дайшла да размовы з дырэктарам цэнтра дадатковай адукацыі **Святланай Царук** і падпісання кантракта, Масюку ў працаўладкаванні было адмоўлена. Прычына адмовы гучала так: не адпавядае патрэбнай кваліфікацыі.

Масюк палічыў гэты адказ неабгрунтаваным і незаконным. Як аргумент таму ў сваім іску ён напісаў, што ва Упраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Слонімскага райвыканкама на дадзеную пасаду (загадчык аддзела па асноўнай дзейнасці) было ўказана адзінае патрабаванне – мець вопыт працы ў сферы адукацыі. Ён жа мае амаль 10 гадоў працы ў сферы адукацыі, а таму прыходзіць да высновы, што адмова ў працаўладкаванні абмяжоўвае яго ў працоўных правах.

*"Я практычна застаўся без сродкаў для існавання, а ў мяне сям'я, двое непаўнагадовых дзяцей,* – канстатуе Масюк. – *Таму я і прасіў суд прызнаць незаконнай адмову заключыць са мной працоўную дамову".*

### У адказ

У сваю чаргу дырэктар цэнтра дадатковай адукацыі Святлана Царук даслала ў суд пярэчанне на іск Масюка з патрабаваннем прызнаць незаконнай адмову яго працаўладкаваць. У ім яна патлумачыла, што ў кастрычніку 2016 года з Масюком быў скасаваны працоўны кантракт па ініцыятыве наймальніка за прагулы без уважлівых прычын, а ў іскавай заяве, маўляў, ён патрабуе прыёму на працу ды яшчэ на вышэйшую пасаду.

Такі факт сапраўды быў, і варта нагадаць тыя падзеі 2016 года.

У 2016 годзе Масюка ў складзе дэлегацыі беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў запрасілі ў Нарвегію. Ён напісаў заяву на пяцідзённы адпачынак за свой кошт, але




начальства яго не адпусціла. Актывіст паехаў без дазволу, а калі вярнуўся, то яго звольнілі за прагулы.

Тады за Масюка спрабавалі заступіцца вучні, у якіх ён вёў гурток, да дырэктара прыходзілі бацькі, але гэта ніякім чынам не паўплывала на рашэнне начальства. Масюк праз раённы Цэнтр занятасці пачаў шукаць іншую працу, аднак гэта пытанне неабходна было ўзгадніць з вышэйстаячым кіраўніцтвам – аддзелам адукацыі Слонімскага райвыканкама. Пасля "ўзгаднення" Алесю 9 разоў адмаўлялі ў працаўладкаванні. І толькі праз суд яму тады ўдалося заключыць працоўную дамову на працу ў сістэме адукацыі.

### Суд знайшоў новыя аргументы

Выслухаўшы аргументы бакоў, Слонімскі раённы суд адмовіў Масюку ў задавальненні іску. Паводле рашэння суда, падчас разгляду справы было выяўлена парушэнне, дапушчанае цэнтрам дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі ў частцы прадастаўлення звестак аб наяўнасці вакансій.

У раздзеле "Дадатковыя патрабаванні да кандыдатаў", згодна з рашэннем суда, не ўказана неабходнасць для суіскальніка адпавядаць патрабаванням дэкрэта прэзідэнта РБ ад 15 снежня 2014 года №5 "Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый". Напрыклад, няма інфармацыі пра тое, што на кіруючую пасаду не можа прэтэндаваць работнік, які раней быў звольнены ў сувязі з дыскрэдытуючымі абставінамі.

Масюк спрабаваў пярэчыць, што пасада не з'яўляецца кіруючай і нават не ўваходзіць у адзіны даведнік, але суд не прыняў гэта да ведама.

Суд палічыў, што патрабаванні дэкрэта прэзідэнта №5 да суіскальніка на дадзеную пасаду з'яўляюцца дадатковымі кваліфікацыйнымі патрабаваннямі, хаця яны не ўказаны ў адзіным даведніку прафесій. Паводле меркавання суда, дэкрэт прэзідэнта мае вышэйшую юрыдычную сілу, чым дадзены даведнік, і ён уносіць дадатковыя кваліфікацыйныя патрабаванні да суіскальніка.

Такім чынам, у іску Масюку было адмоўлена не на падставе таго, што ён не адпавядае кваліфікацыі, а таму, што быў некалі звольнены ў сувязі з дыскрэдытуючымі яго абставінамі.

Масюк з гэтым не згодны і заявіў "Народнай Волі", што збіраецца абскарджваць гэтае рашэнне ў абласным судзе.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Паратунак для зладзейкі, што каштуе «брэнд» капейкі

Жыхарка Магілёўскай вобласці звярнулася ў міліцыю з заявай: у цягніку ў яе ўкралі дарагія фірменныя красоўкі брэнды Reebok. Зладзейку знайшлі, і ёй пагражала крымінальная справа. Аднак высветлілася, што красоўкі – падробка пад вядомы брэнд, і зладзейку чакае толькі адміністрацыйнае пакаранне.

І трэба ж гэтак: нехта лоўкі,
Прытым нячысты на руку,
У маладзіцы ўкраў красоўкі
Падчас паездкі ў цягніку.
Жанчына дужа бедавала,
Яе настрой разбіўся ўшчэнт,
Бо грошай выклала нямала –
Абутак меў славуты брэнд.
Была ў міліцыю заява,
Зладзейку ў рэшце рэшт знайшлі.
І крыміналам пахла справа:
Усё ж каштуе не рублі
(Тым больш не нейкія капейкі)
Тавар, што мае «брэнд-ярлык».
Аднак, на радасць для зладзейкі,
Са справы атрымаўся пшык,
І не суровай будзе кара,
Бо тым красоўкам грош цана.
Як пачувалася ахвяра?
Забедавала больш яна!
Але навошта так журыцца,
Па сутнасці, з-за драбязы?
Бо палічыла маладзіца,
Што абакралі два разы…

* * *

Сабе зладзейка ўбіла ў клёпкі –
Сцвярджае з гэтае пары:
– А добра ўсё-ткі, што падробкі
Суюць парою гандляры!

## Спяшаўся на пары, а трапіць на нары

Студэнт 2-га курса Беларускай дзяржаўнай сельгасакадэміі дужа не хацеў спазніцца на заняткі. Своечасова дабрацца з Оршы да Горак на грамадскім транспарце было ўжо немагчыма. І ён «пазычыў» чужы аўтамабіль. На заняткі паспеў, але супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

Расклад атрымаўся такі
(Для хлопца – сапраўдная драма):
З вакзала сышлі цягнікі,
Апошні аўтобус – таксама.
Наняць для паездкі таксі?
(Іх многа стаіць ля вакзала.)
Стыпендыю ўсю аддасі,
І будзе стыпендыі мала.
Уранку – у восем гадзін! –
Пачнуцца ў вучэльні заняткі.
Дык бачыцца выхад адзін,
Хоць ён непрыстойны і гадкі.
Залез у чужое аўто
(Кіроўца завабіўся дзесьці),
І хлопцу пашэнціла, што
Машыну ўдалося завесці.
Імчаўся ён цэлую ноч
(Так ездзіць і гоншчык не ўсякі),
Як дрогкія знічкі, наўзбоч
Мільгалі дарожныя знакі.
Здаволены быў маладзён:
Паспеў ён на першыя пары,
Патрапіў на лекцыі ён!
Патрапіць яшчэ і на нары…

* * *

У хлопца прыгнечаны стан:
Найболей шкада небараку,
Што за дысцыпліну дэкан
Яму не аб'явіць падзяку.

## Мацярынская навука

У дзеўкі пытаецца матка:
– Скажы: на каго немаўлятка
Падобным павінна радзіцца?
– На тату…
– На мужа, дурніца!

## Здзіўленне

Ён запытацца мог ужо:
– А колькі ў вас было мужоў?
Яна здзівілася на міг:
– Сваіх?

## Каты – атэісты

Для свойскае жывёлы мы – багі,
І німб над намі бачаць прамяністы.
Але ў катоў інакшыя мазгі –
Адны яны, напэўна, атэісты…

## Ісціна ў спрэчцы

Даследаванне правялі:
А нараджаецца калі
У спрэчцы ісціна звычайна?
Калі ў яе ўступіў начальнік.

## Недаацаніў

Муж учыніў скандал
(Суседзям – шоу):
Пад ложкам палюбоўніка знайшоў.
Не ацаніў належна жонку ён,
Не зазірнуўшы ў шафу й на балкон…

## Апілкі ад рагоў

Стала ў вас чамусьці перхаць
Паяўляцца зноў і зноў?
Будзе версіяй найпершай –
То апілкі ад рагоў.

УРАЖАННЕ

# Ёлка-каралева!



На выхадныя ездзіла ў Вільнюс. Там на Кафедральнай плошчы ўжо стаіць навагодняя ёлка. Але гэта не проста ўпрыгожаны цацкамі святочны атрыбут. Літоўцы падышлі да аздаблення ёлкі нестандартна і зрабілі яе падобнай на шахматную каралеву з вэлюмам з лампачак-гірлянд! А вакол расставілі шахматныя фігуры. Відовішча непаўторнае, я вам скажу!

Акрамя таго, побач з ёлкай размясціліся драўляныя хаткі з ежай і сувенірамі. Як кажуць, усё для турыстаў. Адпачывай і атрымлівай асалоду…

**Ганна ХМЯЛЕЎСКАЯ.**

ПАЗІЦЫЯ

# З вялікім хваляваннем чакаю я 8 снежня

Чым бліжэй 8 снежня, тым трывожней робіцца на душы. У гэты дзень споўніцца 20 гадоў, як у 1999 годзе прэзідэнты Расіі і Беларусі ў чацвёрты раз падпісалі «Дамову аб стварэнні Саюзнай дзяржавы». Хоць давайце адкрыта скажам: саюз Беларусі і Расіі не можа быць раўнапраўным і раўназначным. Судзіце самі: па тэрыторыі Расія большая за Беларусь у 82,5 раза. Мы нават не заўважым, як ператворымся ў шэсць дадатковых суб'ектаў іх федэрацыі. Не трэба забывацца і пра тое, што Расія занадта агрэсіўная, непрадказальная дзяржава. Як сведчыць гісторыя, без войнаў яна проста не можа існаваць. І калі азірнуцца назад, то можна ўбачыць, што больш за ўсіх ад Расіі пацярпелі мы і нашы продкі. Таму я не разумею, якія сілы падштурхнулі беларускае кіраўніцтва зрабіць такі неабдуманы, небяспечны крок – падпісаць «Дамову аб стварэнні Саюзнай дзяржавы».

Нагадаю чытачам «Народнай Волі» храналогію падпісання такіх дамоў:

– 2 красавіка 1996 года – стварэнне супольнасці Расіі і Беларусі;

– 2 красавіка 1997 года – «Дамова аб Саюзе Беларусі і Расіі»;

– 25 снежня 1998 года – «Дамова паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь аб роўных правах грамадзян»;

– 8 снежня 1999 года – «Дамова аб стварэнні Саюзнай дзяржавы», 20-гадовы юбілей якой збіраюцца адзначыць кіраўнікі дзвюх краін.

Менавіта 8 снежня прэзідэнты Расіі і Беларусі маюць намер падпісаць паперы аб паглыбленні інтэграцыі. Але куды ўжо глыбей ? Няўжо яшчэ не дасягнулі дна?

Трывога і небяспека ўзмацняюцца яшчэ і таму, што ўсе гэтыя сустрэчы, падпісанні, паглыбленні адбываюцца таемна ад народа. У СМІ, якія я чытаю, да сённяшняга дня не змог знайсці тэкст падрыхтаваных для падпісання дакументаў.

У далёкім ужо 2014 годзе, пасля расійскай агрэсіі супраць Украіны, аднойчы раніцай мне патэлефанавалі знаёмыя з Расіі. «Ильюша, как дела, как здоровье?» – пытаюцца. «Ды вось, прачнуўся, выйшаў на балкон – на вуліцы супраць майго балкона расійскіх танкаў і «зялёных чалавечкаў» не бачна, значыць, яшчэ адзін дзень у маім жыцці будзе добрым». Мае знаёмыя паклалі трубку, больш не тэлефануюць, наш саюз распаўся.

Узгадаўшы гэты эпізод, падумаў: а ў якой краіне я прачнуся 9 снежня 2019 года? Праўда, пасля слоў прэзідэнта «Извините, на хрена нужен кому такой союз?» стала крыху спакайней. Але ж калі сказана «на хрена?», узнікае пытанне: дык які тады сэнс 8 снежня падпісваць дакумент аб паглыбленні інтэграцыі?

За апошнія гады актывізаваліся ў Беларусі прыхільнікі «русского мира». Чытачы «Народнай Волі», магчыма, яшчэ памятаюць суд над групай аўтараў расійскага сайта Regnum, грамадзян Беларусі. Усе яны розныя людзі, але іх аб'яднала, мякка кажучы, непрыязнае стаўленне да Беларусі як дзяржавы, да беларускай мовы.

Яшчэ адзін прадстаўнік «русского мира» – пісьменнік Павел Карэлін, ураджэнец горада Находкі, што на Далёкім Усходзе, але пражывае ў Маскве і Мінску. Інфармацыя, якой краіны ён грамадзянін, я не знайшоў. На сайце «Ютуб» у яго ёсць канал «Моя территория», дзе ён размяшчае свае прапагандысцкія відэаблогі. Я паглядзеў адзін – «Тщательно скрытая история», часть 32: «Зачем Советская Россия создала Беларусь». Такой ахінеі пра Беларусь я ніколі не чуў! І чамусьці Паўла Карэліна беларуская ўлада не аб'яўляе асобай нон-грата. Ён не адзінокі, такіх шмат. Небяспека палягае ў тым, што вось такія асобы дапушчаны да працы з моладдзю.

З вялікім хваляваннем чакаю я 8 снежня...

**Ілля КОПЫЛ, былы вайсковец.**

РОЗДУМ

# Калі ўзрушэнне нараджае рух…

Спяшаюся напісаць гэтыя радкі і далучыцца да галасоў тых, хто спадзяецца, што наша супольная энергія, назапашаная напружаным чаканнем дня пахавання герояў паўстання 1863–1864 гадоў і тым феерычным шматлюдным удзелам у гэтай урачыстай трагічна-сцвярджальнай цырымоніі сотняў беларусаў з бел-чырвона-белымі сцягамі ў дзень 22 лістапада ў Вільні, не сыдзе ў нябыт, не акрыецца мокрым восеньскім туманам і не застанецца на гістарычным віленскім бруку. Спадзяюся, што гэтыя сотні і тысячы тых, хто сачыў у інтэрнэце за гістарычным актам ушанавання паўстанцаў праз «Белсат» і Радыё Свабода, стануць «гістарычнымі мультыплікатарамі» гэтай гістарычнай падзеі.

«Народная Воля» змясціла выдатны рэдакцыйны рэпартаж Міхала Карневіча ў нумары за 26 лістапада, у якім аўтар слушна гаворыць пра пахаванне, а не пра «перапахаванне»: 155 гадоў таму ў Вільні па-бандыцку закапалі забітых, звязаўшы за спінай рукі і схаваўшы ад людзей за сценамі акупацыйнай расійскай фартэцыі. Вельмі добра, што быў дадзены і поўны тэкст выступлення афіцыйнага прадстаўніка Беларусі.

### Што ж адбылося?

Што гэта за дзень для нас, цяперашніх беларусаў, для нашых мужчын ва ўзросце 19–27 гадоў – студэнтаў, фермераў, айцішнікаў, цесляроў, дзяржаўных службоўцаў?

У капліцы на віленскіх Росах цяпер годна ўшанаваныя спачываюць парэшткі маладых дзяцюкоў такога ўзросту, якія адышлі з жыцця, не зведаўшы нават радасці бацькоўства. Наш 26-гадовы Кастусь перадаў апошнюю вестачку сваёй нарачонай Марыі Ямант на мове свайго сэрца – беларускай: «*Марыська чарнабрэва, галубка мая, // Гдзе ж ты ся падзела шчасце і ясне доля твая? // Усё прайшло, як бы не бывала, // Адна страшэнна горыч у грудзях застала. // Не наракай, Марыся, на тваю бяздолю, // Но прыймі цяжкую кару – Прадвечнага волю. // А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся, // То я з таго свету табе адазвуся*». Гучыць, як голас Хрыста перад гефсіманскай алівай: «*Войча мой! Калі не можа чара гэтая абмінуць Мяне, каб Мне не піць з яе, хай станецца воля Твая…*»

Былі ў нашай найноўшай гісторыі ўзрушэнні, што далі пачатак Адраджэнню 1980-х гадоў. Для мяне асабіста першым «гістарычным» узрушэннем, салодкай зайздрасцю, было назіраць чужое гістарычнае шчасце – Міжнародны фальклорны фестываль у Рызе ў канцы 1980-х гадоў, дзе прыбалты са сваімі гістарычнымі сцягамі ішлі поруч з іншымі народамі планеты, першы з'езд Саюдзіса ў Вільні, дзе ў прэзідыуме сядзелі «лясныя браты», а на двары яшчэ была савецкая ўлада. Потым я «гістарычна» пражыў свой зварот да літоўскіх беларусаў у прамым эфіры ў будынку іх парламента, абкладзенага мяшкамі з пяском і бетоннымі плітамі… За калючай агароджай – расійскія танкі… Літоўскія абаронцы – са спартыўнымі малакаліберкамі…

У нас: мітынг на Дзяды каля мінскіх Усходніх могілак – упершыню перад шматтысячным натоўпам лунае бел-чырвона-белы сцяг… Курапаты, першы з'езд БНФ у Вільні, Закон аб мовах у БССР, стадыён «Дынама» перад выбарамі, перапоўнены грамадзянамі – не натоўпам! Потым было 25 жніўня 1991 года – наданне Дэкларацыі пра дзяржаўны суверэнітэт статусу канстытуцыйнага закона. Плошча спявала: «Выбіраў жаўнер трэцю сцежачку, бо вяла яна ў родну межачку…» Мы былі гістарычна шчаслівыя.

Былі вялікія мітынгі, былі няўдалыя плошчы. Сённяшні дзень трывожны. Пасля выбараў, «варожачы», што чакае нас на перамовах пра паглыбленне інтэграцыі і на прэзідэнцкіх выбарах, людзі па закліку сэрца прыехалі зноў у нашу гістарычную Вільню з'яднацца і набрацца сіл.

Гледзячы 7-гадзінны стрым з Вільні ў інтэрнэце, у лагоднай меланхоліі, як герой Максіма Гарэцкага, я ўзгадаў статыстычныя звесткі пра Вільню розных гадоў. Арнольд Тойнбі, узгадваючы Вільню 1922 года, заўважаў: «Вільня – своеасаблівы горад: тут жывуць пераважна беларусы ды яўрэі, а прэтэндуюць на яго літоўцы і палякі». Цяпер усё інакш. На дзяржаўным узроўні ўсё сфармулявана. У нас агульная гістарычная спадчына. Тое ж і з расіянамі, і з украінцамі, і з палякамі. Аднак у простай штодзённай свядомасці ды і паміж нашымі гісторыкамі і вучонымі суседзямі памежнага перыметра ўсё не так гладка.

Пэўна, нам трэба брацца за працу, якую даўно зрабілі немцы, французы і палякі – напісалі агульную 4-томную (слова ў слова аднолькавую!) гісторыю для гімназій і ліцэяў. Немцы і французы закончылі працу гадоў 15 таму, заканчваецца польска-нямецкі праект «Наша гісторыя». Я пісаў пра гэта даволі падрабязна ў часопісе ARCHE ў артыкуле «Сумесныя падручнікі гісторыі: замежны досвед і беларускія перспектывы» (2017, №4).

### Падводзячы вынікі

Пасля 22 лістапада Каліноўскі стаў афіцыйна нават яшчэ больш нашым, родным. Цытаты з «Мужыцкай праўды», «Лістоў з-пад шыбеніцы», дакументальная дэманстрацыя гісторыі паўстанцкага паролю «Каго любіш? – Беларусь! – То ўзаемна» (не прыдуманы цяперашнімі «нацыяналістамі», а засведчаны ў пратаколе допыту інсургента-здрадніка), публічная згадка пра ліст Каліноўскага да сваёй нарачонай перад смерцю на беларускай мове, пералік імён паўстанцаў, якія нарадзіліся на нашай зямлі, і магутная прысутнасць сённяшніх беларускіх дзецюкоў, сівых дзядоў, дзяўчатак і маладзіц зрабілі сваю справу. Выступленні нашых экспертаў на вечаровым ток-шоу Глеба Лабадзенкі, асабліва маладога гісторыка Васіля Герасімчыка, высвецілі нікчэмнасць нашых «апалячвальнікаў» постаці Кастуся Каліноўскага. Каліноўскі не быў русафобам. Калі сп.Марзалюк канстатуе не вельмі сяброўскія эпітэты Каліноўскага на адрас праваслаўнай расійскай царквы, ён не хоча зразумець, што кіраўнік паўстання скіроўваў сваю крытыку не на расійскага Бога, а на цэзарапапізм Масковіі.

Выступленне нашага афіцыйнага прадстаўніка – віцэ-прэм'ера Ігара Петрышэнкі – я не лічу няўдалым. Хіба што апошні пасаж можна было сфармуляваць трошкі далікатней, як гэта зрабіў, напрыклад, Тадэвуш Кандрусевіч, гаворачы пра сыпанне солі на раны. Крыкі на плошчы «Ганьба!» былі, на маё ўспрыманне, неадэкватнымі: псіхалогія натоўпу не заўсёды бывае рацыянальнай. Тэкст пісаўся разумным чалавекам. Наш бок зрабіў максімум магчымага з улікам усяго кантэксту падзей. Канешне, наш спікер перабольшыў, гаворачы пра ўшанаванне Каліноўскага ў Беларусі. Але фармальна гэта гучала здавальняюча. За пасаж пра пароль паўстанцаў аўтару тэксту трэба сказаць дзякуй.

Агульнае ўражанне: радасць, вера, што нас шмат. У інтэрнэце ўбачыў шмат знаёмых твараў, можа, з паўсотні. Галоўная радасць – маладыя незнаёмыя твары. Гавораць па-беларуску, са сваіх невялікіх сродкаў робяць карысную справу, ведаюць гісторыю, прыехалі сем'ямі ў маразяна-ветраны дзень, у працоўны час. Цешыўся, слухаючы ток-шоу Глеба Лабадзенкі і ягоныя інтэрв'ю. Бездакорны ўзровень і па змесце, і па журналісцкім майстэрстве. Я зрабіў бы яго нейкім героем пяцігодкі – і за «Мову нанова», і за помнік Касцюшку, і за праграмы на «Белсаце».

Літоўцам за дзень ушанавання герояў дзякуй! Зрабілі ўсё годна, прыгожа. Мы так не змаглі б, нават афіцыйна. Я так думаю. Акрамя ганаровай варты, я не бачыў там людзей у ваеннай форме.

Верыцца, што хрысціянскае пахаванне герояў паўстання 1863–1864 гадоў перапыніць нарэшце нашу шматгадовую традыцыю найноўшай гісторыі сімвалічна-рашуча яднацца на могілках: на Росах, у Курапатах, у Лошыцы, на Дзяды ў Ласях і Плябані, на трагічных чарнобыльскіх шэсцях 26 красавіка – і разбудзіць, як некалі ў гісторыі, паспалітае рушэнне пад сцягам Пагоні.

Удадзімір Някляеў пасля ВІЛЬНІ-2019 напісаў такія радкі:

*І расступілася зямля...*
*І выйшаў першы. «Гэта я», –*
*Сказаў ён. І за ім паўсталі*
*Усе, што пад зямлёю спалі.*
*«Так. Гэта я», – сказаў другі...*
*І ўсе яны ўзнялі сцягі,*
*І з несатлелымі сцягамі*
*Хто ўперадзе, хто ўслед за намі*
*Пакрочылі –*
*а пасярод –*
*Вякамі палены, карчоны,*
*Скрываўлены, ды не знішчоны,*
*Паўсталы з-пад зямлі*
*Народ!*

**Пётр САДОЎСКІ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у ФРГ у 1992–1994 гадах.**



РУБАМ!

# Як у Гродне прадаюць «Народную Волю»…

У мінулую сераду давялося наведаць Гродна. Маючы зранку свабодную хвіліну, вырашыў прайсціся па цэнтры горада. На вуліцы К.Маркса спыніўся ля шапіка з шыльдай «Белсаюздрук», каб купіць газету «Народная Воля».

Гляджу – на вітрыне яе няма, хоць ад назваў мноства іншых выданняў аж вочы разбягаюцца. Пытаюся ў маладой дзяўчыны-прадаўца:

– Чарговы нумар «Народнай Волі» выйшаў учора, няўжо ўсе экземпляры ўжо прадалі?

Убачыўшы маё настойлівае жаданне купіць газету, яна пачала перабіраць нейкія стосы пад прылаўкам. Не знайшла. Тады кінулася ў задні закуточак шапіка. Доўга валтузілася, але нарэшце трымае ў руках два экземпляры «Народнай Волі».

– Знайшла!

– А чаму яны не на вітрыне?

Паўза. Прашу назваць сваё прозвішча і імя.

– Карповіч Кацярына (так я пачуў).

Тлумачу спадарыні Кацярыне:

– «Народная Воля» выходзіць два разы на тыдзень – па аўторках і пятніцах. Нумар, які выйшаў учора, яшчэ павінен прадавацца, лічы, тры дні. І тое, што газета не на вітрыне, а ўжо ў сховішчы – гэта, па-першае, грубае парушэнне правілаў гандлю, а па-другое, яўная дыскрымінацыя вядомага недзяржаўнага выдання.

Сваё абурэнне я адрасую кіраўніцтву Гродзенскага філіяла ГРУП «Белсаюздрук». Скажыце, калі ласка, чым прагнявіла вас «Народная Воля», чаму да яе не такое стаўленне, як да праўладных газет, нумары якіх вы трымаеце на самых відных месцах і не адзін дзень? Калі раней тэрміну здымаецца з продажу «Народная Воля», то ці ж можна верыць той лічбе, якую вы афіцыйна паказваеце ў справаздачы аб рэалізацыі газеты?

**Іван ПАЎЛОЎСКІ.**

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ...

# Как живут ватиканцы

*Ватикан – самое маленькое и, пожалуй, самое засекреченное государство в мире. Поэтому пообщаться с одним из его 605 граждан оказалось совсем не просто. Большинство граждан Ватикана – это служители церкви, 120 человек – военные (у Ватикана есть своя армия – Швейцарская гвардия, и она, на минуточку, старейшая армия мира). Лишь 60 человек в Ватикане – светские граждане. В основном это жены и дети швейцарских гвардейцев. Вступить в брак гвардейцы могут только по специальному разрешению, дослужившись до звания капрала, а принимают в Швейцарскую гвардию исключительно холостяков. Кроме того, кандидатура невесты должна получить одобрение Святого Престола.*

Общая площадь Ватикана – всего 44 гектара. Микроскопическое государство располагается внутри Рима и со всех сторон граничит с Италией. Территория Ватикана столь мала, что все иностранные посольства, аккредитованные при Святом Престоле, находятся в Риме.

В Ватикане нет аэропорта, но есть своя вертолетная площадка. При желании из Ватикана в Италию можно доехать на поезде – но лишь раз в неделю, по субботам, когда локомотив отправляется из Ватикана в Кастель-Гандольфо, летнюю резиденцию Папы Римского. Международная железная дорога Ватикана – самая короткая в мире. Ее длина всего один километр, лишь 200 метров из которых проходят по ватиканской территории. Когда-то эта железная дорога использовалась, чтобы перевозить из Ватикана в Рим самого Папу. С недавнего времени она открыта для туристов.

В Италии ходят легенды. Все они недалеки от действительности. Магазины Ватикана освобождены от налогов, и цены в них ниже почти на 25%. Это касается продуктов, элитного алкоголя, косметики и парфюмерии, техники, брендовой одежды и обуви. Говорят, что жители Ватикана пьют больше вина, чем в любой другой стране мира: в среднем 105 бутылок в год. А еще в сувенирных магазинчиках за 10–12 евро можно приобрести календарь с изображением самых привлекательных католических священников.

Для граждан Ватикана также ниже цены на лекарства и на бензин – в Ватикане есть своя автозаправка. Правда, для того чтобы воспользоваться этими благами, необходимо иметь специальное удостоверение резидента – в Риме его шутливо называют «карта дядюшки священника». Многие римляне мечтают заполучить эту карту, чтобы купить ватиканское молоко – его дают коровы, живущие на территории летней резиденции Папы в Кастель-Гандольфо, и римляне считают его особенно полезным. Но даже больше, чем о ватиканском молоке, итальянцы мечтают о ватиканском дешевом бензине. Увы, на заправке Ватикана обслуживают только авто с местными номерами. Да и въехать на территорию города-государства без специального разрешения не получится.

Увеселительных заведений на территории Ватикана нет. Чтобы посетить рестораны, пиццерии, театры, пабы, ватиканцы едут в Рим. Однако предпочитают по вечерам не задерживаться: ворота Ватикана закрываются в 1.15 ночи и открываются утром в 5.45. Конечно, если ватиканцы вернутся домой после закрытия ворот, они не останутся ночевать на улице. Швейцарский гвардеец откроет врата Ватикана по первому звонку. Но в специальный реестр полуночников все же запишет.

Большинство населения Ватикана – мужчины. Женщинам стоит помнить, что Ватикан – государство католическое, а значит, его жительницы должны соблюдать принципы благочестия в одежде. Ватиканский дресс-код не допускает слишком откровенных нарядов, не разрешает открывать плечи и оголять ноги выше колена.

Есть в Ватикане и собственная сборная по футболу. Она одна из восьми мировых сборных, не признанных FIFA. Впрочем, это не означает, что футболу в Ватикане не уделяют должного внимания. На сегодняшний день в папском государстве играют восемь футбольных команд: Gendarmeria Vaticana (служащие жандармерии), Virtus 51 (командование жандармерии), Dirtel (ватиканская почта), Santos (сотрудники экономического отдела, продовольственного магазина и автозаправки), Musei Vaticani (ватиканские музеи), Guardia Svizzera (Швейцарская гвардия), Fortitudo (служащие флорерии, администрации церковного имущества и технических служб Святого Престола), а также Associazione Santi Pietro e Paolo (бывшая Палатинская гвардия). Матчи футбольного чемпионата Ватикана проходят по понедельникам и вторникам, а не по воскресеньям, как матчи чемпионата Италии. В католической традиции Ватикана воскресенье – день отдыха в семье, молитвы и похода на мессу.

За футбол, как и за всю спортивную активность, в Ватикане отвечает специальное подразделение при Папском совете по культуре. Недавно Совет объявил о создании в Ватикане первой сборной команды по легкой атлетике. В ее состав вошли гвардейцы, административные служащие и сотрудники технических служб Святого Престола, священники и даже монахини. По соглашению с Олимпийским комитетом Италии сборная вошла в состав итальянской Федерации легкой атлетики. В ближайшее время атлеты Ватикана планируют принять участие в Играх малых государств и в Средиземноморских играх. А дальше, кто знает, может, и в олимпийских состязаниях.



Ворота в Ватикан круглые сутки охраняют солдаты Швейцарской гвардии. Пусть вас не смущает их красочная, почти театральная униформа. Папская гвардия – полноценная армия, а по соотношению к числу жителей Ватикан – самое военизированное государство в мире. Кстати, вопреки расхожему мнению, униформу гвардейцев придумал не Микеланджело. Дизайн формы жандармов в его нынешнем виде появился в XX веке благодаря командиру Папской швейцарской гвардии Жюлю Максиму Репонду.

Гражданство Ватикана – временное. Оно выдается Папой, который выступает главой законодательной, исполнительной и судебной власти, или его делегатами. Получить паспорт Ватикана могут работники Ватикана и члены их семей, а когда завершается служение Святому Престолу, заканчивается и гражданство. Его автоматически обменивают на итальянское, а бывшего гражданина провожают за пределы вековых ватиканских стен. На территории Ватикана нет роддома, и дети, рожденные у граждан анклава, появляются на свет в клиниках Рима. Они лишаются гражданства по достижении 18 лет или же как только гражданства лишаются их родители.

Паспорт гражданина Ватикана приравнивается к дипломатическому. Правда, документ этот настолько редкий, что, по признанию самих ватиканцев, ему порой удивляются даже работники таможни. Что, в принципе, можно понять: в мире таких паспортов единицы.

О привилегиях, которыми обладают резиденты Ватикана, в Италии ходят легенды.

Разумеется, в Ватикане почитают все католические праздники. Когда новый Папа выбирает себе тронное имя на время понтификата, как, например, нынешний, который выбрал имя Франциск, то день его святого покровителя становится в Ватикане выходным днем. Не забывают в Ватикане и о животных: 17 января, в день Святого Антония, который считается покровителем домашних животных, итальянцы со своими питомцами собираются близ площади Святого Петра, для того чтобы получить благословение.

Ватикан – удивительная страна. Единственный банк страны называется «Институт религиозных дел». В банкоматах для совершения транзакций можно выбрать латинский язык, который официально признан государственным. Что делать, если человек не владеет латынью? Помнить о духовной пище. Ведь даже если Ватикан вечен, все его граждане – лишь временные постояльцы.

*(Из зарубежной прессы.)*

ОНИ – О СЕБЕ

# Босой капитализм

## *Сколько можно России строить котлован будущего?*

*Эксперты бьют в тревожные колокола по поводу все более заметного замедления развития страны. Как отмечается в многочисленных исследованиях, торможение идет по всем направлениям – экономика, социальная сфера, развитие человеческого капитала.*



Надежды, которые были связаны с нацпроектами, тают на глазах. Идет подмена свободного рынка спускаемыми сверху абстрактными проектами развития. Эксперты говорят о росте социального пессимизма. Всё более тревожит такой обобщающий критерий, как качество населения. Чем громче звучат рапорты об успехах, тем чаще наиболее перспективная и образованная часть населения выстраивается у европейских консульств с документами на выезд из России. Обращает на себя внимание то, что люди крайне редко уезжают по политическим соображениям (хотя оппозиционно настроенная часть прессы любит писать об этом). И всё больше – по экономическим и «человеческим» мотивам. Людям, особенно молодым, хочется видеть перспективу. Пока же они видят бесконечную стройку котлована будущего. Де-факто Россия возвращается к плановой социалистической экономике, которая привела страну (говоря словами В.Путина») «к величайшей трагедии XX века».

### Новое диссидентство?

В этом сезоне сразу несколько российских театров ставят знаменитую чеховскую пьесу «Дядя Ваня», написанную более 120 лет назад. Думаю, что неслучайно. Очень уж актуально звучат слова Сони, племянницы дяди Вани: «Будем работать, дядя Ваня. Будем терпеливо сносить испытания, какие пошлет нам судьба… И Бог сжалится над нами. Мы услышим ангелов, мы увидим небо в алмазах. Мы отдохнем…»

Как и в советские времена, из глубин новых котлованов сегодня хорошо просматривается разве что «небо в алмазах», но лестницы, чтобы выбраться из них и попасть в пятерку-десятку развитых стран мира, до сих пор нет. Можно сказать, что массовое возвращение «Дяди Вани» на театральные подмостки – это форма элитарного и позволительного диссидентства.

Диссидентство стало открыто проявляться при Н.Хрущеве. Исчез страх перед сталинской репрессивной системой, и люди заговорили. В застойные брежневские времена диссидентство стало важной формой общественного протеста. Горбачевская перестройка интегрировала его в общий процесс демократизации. В годы «гласности» диссидентство выплеснулось на поверхность общественной жизни и стало важной формой регулирования социального недовольства – своего рода клапаном, снижающим протестное давление.

Особенность диссидентства в СССР состояла в том, что оно не затрагивало ни рабочую, ни крестьянскую среду. Это была протестная поляна для интеллигенции – культурной, научной, технической. Сферы бюрократии оно не касалось. Там все было в умело дозированном «шоколаде». Кому-то – квартира и дача, кому-то – продуктовые пайки и путевки в санатории, кому-то – доступ в МИДовское ателье.

Особенность нынешнего времени, а в частности последних пары лет, состоит в том, что недовольство в РФ стало перемещаться из стана оппозиции в правящие круги. Все более критический настрой в отношении экономической политики и свертывания уровня политической терпимости обнаруживают не только известные критики власти из стана «иностранных агентов», но и – всё чаще люди из властных кругов.

### Что сказала бы Ванга?

Одним из дирижеров «перестроечного оркестра» стала Счетная палата, возглавляемая А.Кудриным. Масштаб критики возрастает день ото дня. Эксперты Счетной палаты фактически не оставляют камня на камне от заявленных властью амбициозных национальных проектов. Они и в самом деле трещат по всем швам. Демография меняется к худшему. Удвоение аграрного экспорта провалилось. Импортозамещение не работает. Инвестиции не идут, а деньги утекают из страны. Всё больше нареканий к здравоохранению. Врачи – самая, пожалуй, миролюбивая категория населения – переходят к активным формам протеста.

Высказывается мнение, что и новейшая фишка российской власти – цифровизация – окажется очередным котлованом для бюджетных денег. Опасения неслучайны. Вы когда-нибудь слышали, чтобы на Западе, в США объявлялись госпрограммы по цифровой экономике? Там «цифрой», когда возникает потребность, занимаются частные фирмы и из своего бюджета. И это служит гарантией того, что деньги не разворуют.

Прорицатели вроде Ванги, Глобы, волшебники, заряжающие воду своей энергией, сегодня вроде бы не в моде, но в СМИ все чаще звучат слова о «злом роке», который преследует правительство РФ. Цитируя пассаж из «Котлована» А.Платонова, можно сказать, что «в музыке (верхов) не чувствуется ликующего предчувствия».

Показательна ситуация в сфере высшего образования. Там тоже объявлен национальный проект. Выделены хорошие деньги. И что же? Уровень образования продолжает падать. Об этом заговорили даже в сдержанном на мнения Конституционном суде. Что касается тех, кто всё-таки получил или рассчитывает получить хорошую подготовку, то они планируют со временем уехать из РФ за границу. С 2012 г. число людей с высшим образованием, уезжающих за границу, возросло более чем в 4 раза. Опрос «Левада-центра» показывает, что 41% образованных молодых людей подумывают об эмиграции. Реально столько, конечно, не уедет, но настроения показательны. А ведь речь идет о будущей элите.

### Раскол элит

Элита в растерянности. Идет раскол по интересам. Пока форму обретают 3–4 лагеря. В одном те, которые понимают, что надо что-то менять в самой системе власти и госуправления. И что делать это нужно быстро, пока в просвете котлована еще просматриваются звезды. Другие тоже понимают, что перемены назрели. Но хотели бы, чтобы сложившаяся система личного обогащения сохранилась еще на некоторое время (лет на 10–15), чтобы успеть обеспечить внуков, правнуков и гарантировать их обустройство на Западе. Это самая жадная, коррумпированная и спешащая часть элиты. Но есть и третья категория. Это те, которые не хотят и боятся любых перемен из опасения, что новая перестроечная волна просто выбросит их из системы власти, подвергнет ревизии все их «достижения» и «всё нажитое непосильным трудом».

Обособленно стоит силовой сегмент элиты. Он более других осведомлен о реальном положении дел в РФ, но его намерения и возможности воздействовать на ситуацию обществом слабо просматриваются. Поэтому оставим оценки специалистам.

***

Каковы же общие выводы из вышесказанного? Они неутешительны: государство в его нынешнем виде лишь по видимости (и все больше на словах) ориентировано на свободный рынок. На самом деле оно опасается частного бизнеса, среднего класса и опирается на бюрократию. Логика понятна: частный бизнес генерирует независимых и незаинтересованных в воровстве собственных денег людей. А вот бюрократии выгоднее рыть новые и новые котлованы. Затягивая стройку так, чтобы не у кого было спросить отчёта. Обслуживая интересы бюрократии, Россия целое столетие строило и продолжает строить (говоря словами А.Платонова) «социализм в босом теле». Может быть, пора обуться? На дворе XXI век.

**Вячеслав КОСТИКОВ.**

*(«АиФ».)*



ЭВРИКА!

### В США вывели сорт яблок, которые можно хранить в холодильнике год

Селекция заняла около 20 лет, а коммерческое освоение обошлось в 10 млн долларов.

Сорт под названием Cosmic Crisp уже поступил в продажу. Он является гибридом сортов Honeycrisp и Enterprise и был впервые выведен учеными Университета штата Вашингтон в 1997 году.

Кейт Эванс, которая руководила программой селекции этого сорта, говорит, что эти яблоки очень долго сохраняют красную окраску и не теряют своих прекрасных вкусовых свойств при хранении в холодильнике в течение 10–12 месяцев.

К настоящему времени в штате Вашингтон посажено более 12 миллионов яблонь этого сорта, а строгая система лицензирования не позволяет выращивать его за пределами штата Вашингтон.

Яблоки, к слову, являются второй по объемам продаж фруктовой культурой в США, уступая только бананам.

РЭХА ВАЙНЫ

# Газавая камера канцлагера Штутгаф

*Пра створаныя немцамі на тэрыторыі Польшчы канцэнтрацыйныя лагеры Асвенцым, Трэблінка, Майданек ведаюць многія. А вось пра Штутгаф, мяркую, чулі і чыталі значна менш. Можна назваць шэраг прычын, чаму так адбылося, але мне хочацца сказаць пра іншае. Добра, што нас, журналістаў з Беларусі, прывезлі на экскурсію менавіта сюды. Значыць, ёсць падстава пазнаёміць чытачоў з малавядомымі старонкамі ваеннай гісторыі. І, можа, нават дапамагчы тым, хто дагэтуль шукае загінуўшых родных.*

## Асабістыя справы вязняў немцы скінулі ў канаву

Данута Дрыва, кіраўнік дакументацыйнага аддзела, якая сустракала нас у архіве, была больш падобная на мініяцюрную школьніцу, чым на доктара гісторыі. Але варта было ёй загаварыць, стала ясна: перад намі вялікі энтузіяст сваёй справы.

– Нашы дакументы дазволілі ўстанавіць 80 працэнтаў прозвішчаў вязняў, якія тут утрымліваліся. Бо мы супастаўляем дадзеныя па рэгістрацыйнай кнізе, асабістых справах, паперах са шпіталяў, транспартных дакументах. Значная частка дакументацыі была знішчана немцамі ў канцы 1944 года. А тое, што засталося, на пачатку 1945-га яны спрабавалі вывезці разам са зняволенымі ў глыбіню Германіі. Не давезлі – выкінулі ў прыдарожную канаву пад горадам Лембаркам.

На шчасце, архівы былі знойдзены і трапілі ў рэшце рэшт у надзейныя рукі. Прама перад нашым прыходам пані Данута разгарнула выратаваныя рэгістрацыйныя кнігі і асабістыя справы вязняў на тых старонках, дзе запісаны прозвішчы нашых землякоў, беларусаў. Мы тут жа кінуліся фатаграфаваць – раптам здымкі дапамогуць іх нашчадкам адшукаць знаёмыя прозвішчы?

Пані Данута між тым дадала, што першапачаткова лагер прызначаўся для палякаў, якія былі не згодны з палітыкай Трэцяга рэйха.

Так, шмат белых, а дакладней, чорных плям у гісторыі. Уявіце: 1 верасня 1939 года пачалася вайна, а ўжо 2 верасня ў гэтую акружаную лясамі і вадой мясцовасць прывезлі першую партыю «ворагаў рэйха» з суседняга Данцыга, пераважна польскую інтэлігенцыю, занесеную ў чорныя спісы. А паколькі да 1939 года тут меўся толькі дом адпачынку для жанчын з дзецьмі і старых, які немцы прыстасавалі пад патрэбы лагернага персаналу, то зняволеных пасялілі ў намётах, абнёсшы тэрыторыю плотам з калючага дроту. Баракі для жытла вязні павінны былі пабудаваць сабе самі. Крыху пазней сюды сталі паступаць людзі з іншых краін: французы, італьянцы, чэхі, венгры, яўрэі. Улетку 1941-га дайшла чарга да рускіх, беларусаў, літоўцаў, эстонцаў і іншых грамадзян СССР. Напэўна, самую пранізлівую кнігу пра Штутгаф напісаў адразу пасля вайны прафесар Віленскага ўніверсітэта, драматург і паэт Баліс Сруога – «Лес багоў». Яна зусім не ўпісваецца ў мемуарыстыку савецкай эпохі, гэта шчымлівая споведзь чалавека, які трапіў у лагерныя баракі ў 1943 годзе і выйшаў адтуль толькі пасля Перамогі.

Паводле слоў пані Дануты, да гэтае пары ў музей прыходзіць шмат лістоў ад сваякоў тых, хто загінуў у Штутгафе. Часцяком няпроста разабраць перакручаныя славянскія прозвішчы, але ёй дапамагае атрыманае ў школе веданне рускай мовы. Не настолькі добрае, каб свабодна размаўляць, але дастатковае, каб ідэнтыфікаваць чалавека.



## Шлях ад аранжарэі да крэматорыя

Уздоўж доўгіх баракаў канцлагера, які займаў плошчу 120 гектараў, нас вядзе каардынатар музея Малгажата Данілюк. Адразу ўдакладняе: аўтэнтычныя аб'екты захаваліся не цалкам, таму што да 1962 года тут знаходзіліся розныя арганізацыі, якія не мелі да музейнай дзейнасці ніякага дачынення: воінскія часці, майстэрні, склады збожжа. А яшчэ... дом адпачынку.

Вось дык на! Пасляваенныя польскія ўлады без усялякіх сумненняў вырашылі аднавіць ранейшую рэкрэацыйную зону – на крывавым месцы. Альбо хацелі начыста сцерці з людской памяці перажыты кашмар? Што ж, такое таксама бывае – да мудрага і ўзважанага ўспрымання балючага мінулага таксама трэба дарасці.

Заходзім услед за пані Малгажатай у адзін з баракаў, ператвораны ў музей. За шкляной вітрынай – велізарная гара абутку з чорнымі, нібы абгарэлымі, падэшвамі. Некаторыя туфлі відавочна дзіцячага памеру. Наш гід тлумачыць:

– У маі 1945 года сюды прыйшлі салдаты 48-й арміі 3-га Беларускага фронту і ўбачылі вось гэтую кучу абутку пад адкрытым небам. Паўмільёна пар. Чаму такая вялікая колькасць? Таму што тут знаходзіліся пашывачныя майстэрні, дзе арыштанты рамантавалі абутак для іншых лагераў.

Няўжо для такіх жа зняволеных, як самі? Але ж вязні Штутгафа павінны былі хадзіць зімой і летам у спецыяльным драўляным абутку і паласатых робах. Ніякага цывільнага адзення – разам з іншымі асабістымі рэчамі яно трапляла ў казну рэйха. У гэтай, на ўсе сезоны, уніформе яны працавалі. На цагляным заводзе, на суседнім лесапавале, у навакольных баўэраў, у майстэрнях па вытворчасці запчастак да баявых падлодак і самалётаў. А яшчэ – вырошчвалі кветкі і экзатычную гародніну-садавіну ў аранжарэі і цяпліцах.



Я не агаварылася, такая прыгажосць мелася ў Штутгафе. Бо і першы камендант лагера оберштурмбанфюрар СС Макс Паўлі, і штурмбанфюрар СС Пауль Вернер Хопе, які змяніў папярэдніка ў 1942 годзе, ды і астатні шматлікі персанал Штутгафа любілі смачна паесці. І пахваліцца вытанчанымі стравамі перад высокімі гасцямі. Напрыклад, перад рэйхсфюрарам СС Генрыхам Гімлерам, які 23 лістапада 1941 года завітаў у тутэйшыя месцы – паглядзець, як спраўляецца прыморская «фабрыка смерці» з узрослымі партыямі жывога грузу.

І спалі вязні ў гэтай жа паласатай уніформе. На нарах у тры ярусы, на кожным з якіх садзіліся (!) спінай адзін да аднаго 6–8 чалавек. А тых, хто раніцай не прачнуўся, чакалі тры печы крэматорыя.

## Жанчына вагой 19 кілаграмаў

Самыя страшныя рэчы могуць выглядаць вельмі будзённа і празаічна. Калі пані Малгажата падвяла нас да несамавітага цаглянага будынка, падобнага хутчэй на звычайны сялянскі хлеў, і сказала, што гэта газавая камера, ва ўсіх нас прайшоў мароз па скуры.

Пралічыліся педантычныя немцы! Меркавалі спачатку толькі дэзынфікаваць у цаглянай будцы вопратку вязняў – паласатыя робы-берэты з паўтканіны-паўдраўніны, якія выдаваліся адзін раз на ўвесь тэрмін зняволення (навошта мяняць, калі сярэдняя працягласць жыцця ў Штутгафе раўнялася 2–3 месяцам?). А потым зразумелі, што ўколаў фенолу ў сэрца для масава асуджаных на смерць неарыйцаў не хапае. І знайшлі для цаглянай будкі іншае прымяненне. Выконвалі з яе дапамогай план «Endloesung» – «Канчатковае рашэнне яўрэйскай праблемы», набіваючы ў цеснае памяшканне сотні людзей і атручваючы іх газам «цыклон Б».

Чырвоныя значкі-вінкелі – палітычным, зялёныя – крымінальнікам, ружовыя – гомасексуалістам, карычневыя – цыганам, жоўтыя – яўрэям… Усяго праз Штутгаф прайшло, паводле апошніх дадзеных, 110 тысяч чалавек з розных краін свету, прыкладна 49 тысяч з іх былі жанчыны і дзеці. Больш за палову, 65 тысяч вязняў, загінулі.

Розныя лёсы і нават, чаго хаваць, розныя ўмовы ўтрымання. Пані Малгажата распавяла нам гісторыю пра маладую жанчыну, якая ў 30 гадоў памерла ў Штутгафе. Была яна ростам 164 сантыметры, да вайны нарадзіла дваіх дзяцей. Калі яе знайшлі мёртвай, суседзі па бараку таемна ўзважылі нябожчыцу. Аказалася, што знясіленая вязніца важыла ўсяго 19 кілаграмаў. Прашу не крыўдзіцца на наступнае параўнанне: самая лёгкая з вартавых сабак, якіх немцы трымалі для аховы вязняў, важыла 26 кілаграмаў.

Але нават перад тварам смерці людзі застаюцца людзьмі. Не ўсе, але многія.

Малгажата Данілюк паказала нам вітрыны з асаблівымі экспанатамі – самаробнымі дзіцячымі цацкамі і малюнкамі. Змайстраваныя ўручную цацачкі прыносілі, хаця гэта і строга забаранялася, прывезеным з Беларусі дзецям жанчыны лагера. А яшчэ – лісты паперы, каб хоць крыху палепшыць будні ста адарваных ад бацькоў маленькіх чалавечкаў, самаму старэйшаму з якіх было 14 гадоў. Дзеці ўспаміналі дом, радзіму – і малявалі. Хоць на хвілінку забываліся, дзе знаходзяцца. Далейшы іх лёс, на жаль, невядомы, таму што ў сакавіку 1944 года тых з малых, хто меў арыйскі выгляд, вывезлі ў Нямеччыну. Затое вядома тое, што адбылося з кіраўніцтвам і персаналам лагера. Не, пакаралі смерцю не ўсіх. Многія прымудрыліся дажыць на волі да сталага ўзросту.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**
**Штутава, Польшча.**

ЧУЛІ?

# Беларусы сталі больш плаціць за медпаслугі

*Такую выснову зрабілі эксперты Сусветнага банка, прааналізаваўшы асноўныя тэндэнцыі ў айчыннай ахове здароўя.*

Так, згодна з іх дадзенымі, цяпер у структуры выдаткаў на медыцыну ў Беларусі пераважаюць дзяржаўныя сродкі: іх каля 60% ад агульнага аб'ёму фінансавання. Пры гэтым на пачатку нулявых дзяржаўнае фінансаванне медыцыны складала 70–80%.

У той жа час унёсак асабістых сродкаў беларусаў на медпаслугі павялічыўся На пачатку 2000-х ён складаў 15–20% ад агульнага аб'ёму фінансавання медыцыны, у 2017 годзе ўзрос да 36%.

Трэба адзначыць, што ў Беларусі на ахову здароўя выдзяляецца амаль 8,5% ад агульнага аб'ёму дзяржаўных выдаткаў. Сусветная арганізацыя аховы здароўя рэкамендуе выдаткоўваць 12%. Нашы выдаткі прыкладна ўдвая менш, чым у развітых краінах Еўрасаюза, але вышэйшыя, чым ва Украіне. Таксама саступаем мы па гэтым паказчыку Польшчы, Расіі, Латвіі, Казахстану і Кітаю.

ФУТБОЛ

# Сланоў раздалі…

*Фінішаваў чэмпіянат Беларусі па футболе.*

Нагадаем, што за тур да фінішу сталі вядомы ўсе прызёры першынства, таму інтрыга апошняга тура захоўвалася ўнізе турнірнай табліцы.

У выніку ў мінулыя выхадныя вызначылася, што магілёўскі «Дняпро» паспаборнічае з брэсцкім «Рухам» за права гуляць у вышэйшай лізе ў наступным сезоне. Матчы пройдуць 5 і 8 снежня.

Усе вынікі апошняга, 30-га, тура: «Энергетык-БДУ» (Мінск) – «Дняпро» (Магілёў) – 5:3, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – БАТЭ (Барысаў) – 1:2, «Дынама» (Мінск) – «Дынама» (Брэст) – 1:3, «Віцебск» – «Славія» (Мазыр) – 0:2, «Іслач» (Мінскі раён) – «Мінск» – 1:1, «Шахцёр» (Салігорск) – «Гарадзея» – 1:0, «Слуцк» – «Нёман» (Гродна) – 2:1, «Гомель» – «Тарпеда» (Мінск) – 3:0.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 30 | 23 | 6 | 1 | 70–22 | 75 |
| БАТЭ | 30 | 22 | 4 | 4 | 61–21 | 70 |
| Шахцёр | 30 | 20 | 5 | 5 | 59–21 | 65 |
| Дынама (Мн) | 30 | 15 | 5 | 10 | 43–39 | 50 |
| Іслач | 30 | 13 | 8 | 9 | 42–36 | 47 |
| Тарпеда-БелАЗ | 30 | 13 | 6 | 11 | 41–36 | 45 |
| Гарадзея | 30 | 12 | 8 | 10 | 31–29 | 44 |
| Славія | 30 | 10 | 7 | 13 | 35–40 | 37 |
| Мінск | 30 | 9 | 9 | 12 | 36–44 | 36 |
| Нёман | 30 | 10 | 6 | 14 | 28–37 | 36 |
| Слуцк | 30 | 9 | 7 | 14 | 29–46 | 34 |
| Энергетык-БДУ | 30 | 8 | 9 | 13 | 52–66 | 33 |
| Віцебск | 30 | 8 | 7 | 15 | 24–39 | 31 |
| Дняпро | 30 | 8 | 6 | 16 | 32–42 | 30 |
| Гомель | 30 | 7 | 8 | 15 | 44–50 | 29 |
| Тарпеда | 30 | 1 | 3 | 26 | 4–63 | 6 |

Фота: fcminsk.by.



НАКАНУНЕ ПРЕМЬЕРЫ

# «Спасибо вам за Бога»

*Именно такие слова услышал от будущего Папы Римского Кароля Войтылы Валентин Елизарьев после спектакля «Сотворение мира»*

Народный артист СССР, профессор Валентин Николаевич Елизарьев заканчивает работу над новой редакцией своего легендарного балета «Сотворение мира». Он создал его в 1976 году, когда ему было всего 29 лет и он только за три года до этого занял пост главного балетмейстера Большого театра оперы и балета Белорусской ССР. Теперь Елизарьев, мэтр, увенчанный славой, европейским признанием, решил вернуться к этому произведению, которое за 43 года немного затерлось от постоянного, а бывало, не всегда бережного «употребления».

Как известно, музыку к балету написал знаменитый российский композитор Андрей Петров.

– Когда я познакомился с музыкальным материалом, мне он показался удивительно глубоким, – вспоминает Валентин Николаевич. – Мне захотелось раскрыть эту тему глобально, придав ей вселенский характер. Но как осмелиться рассказать о человечестве в целом?

Кстати, Петров специально для белорусского театра создал музыкальную редакцию спектакля. Ведь в оригинале это трехактный балет. Но композитор так воодушевился замыслом Елизарьева, что даже дописывал какие-то фрагменты по его просьбе. А на премьере в Минске в 1976 году, поздравляя артистов и постановщиков, Андрей Петров не мог скрыть своих эмоций и сказал, что этот спектакль можно назвать, пожалуй, самым удачным из всех, что на тот момент существовали в Советском Союзе и за рубежом. Кстати, не последнюю роль сыграла мощная, авангардная для того времени сценография балета, которую создал художник Евгений Лысик.

Именно после этого балета зазвучала фамилия Елизарьева: на каждом спектакле был аншлаг, зритель, как говорится, повалил в Большой театр. Балет стали приглашать за рубеж. Интересная история произошла на гастролях в Польше. После показа «Сотворения мира» на сцене Большого театра в Варшаве к Валентину Елизарьеву с поздравлениями подходил, как сейчас сказали бы, весь истеблишмент. Но



**Артист балета Владимир Иванов, композитор Андрей Петров, хореограф Валентин Елизарьев (архивный снимок).**

слова одного человека хореограф помнит до сих пор. На спектакле присутствовал польский кардинал Кароль Войтыла. Он тоже пришел за кулисы, пожал Елизарьеву руку и кратко сказал: «Спасибо вам за Бога». Буквально через некоторое время кардинала избрали Папой Римским, которого весь мир знает как Иоанна Павла Второго.

– Современного человека всегда будет волновать библейская тема, –считает Валентин Елизарьев. – Бог создал человечество, а уже оно в свою очередь создает современный мир, в котором должна жить надежда и существовать гармония. Делаю новую авторскую редакцию балета, потому что понимаю: поставить спектакль в том виде, в котором он существовал десятилетия, мне неинтересно. Да и в театре сменились поколения артистов, вот от их индивидуальностей и творческих возможностей и буду отталкиваться, чтобы глубже раскрыть тему человека и человечества в целом. Вернуться к этой работе мне невероятно интересно…

В декабре намечено три премьерных спектакля «Сотворения мира». Дирижер-постановщик новой работы – маэстро Вячеслав Чернухо-Волич. Он говорит:

– Для того чтобы оценить масштаб этой постановки, надо вернуться в то общество, в котором мы жили, в общество, в котором упоминание Бога было под запретом, в то время, когда были закрыты храмы всех конфессий и религий. И вдруг тема Сотворения мира – с Богом, ангелами, демонами, адом и раем. Это был невероятный шаг, появление этого спектакля стало революцией, которая произошла в нашем сознании. Подумайте, насколько смелы были тогда молодые художники, которые создали это полотно и вынесли его на подмостки Минска, города достаточно спокойного и консервативного. А ведь история, описанная в «Сотворении…», бунтарская. Остается только сказать: «Браво, Петров! Браво, Елизарьев!..»

**Виктория ДРОЗД.**

